№ 16 (949) 27 красавіка 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». **Старонка 2.**

## Журналісты выявілі на ферме з-пад Чарнобыльскай зоны радыеактыўнае малако



Старонка 2

# Віктар Лукашэнка ездзіў на «Харлеі» коштам ад $55 тысяч

У выхадныя ў Мінску адкрывалі мотасезон. На чале калоны байкераў ехалі міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч і сын прэзідэнта Віктар Лукашэнка.

Шуневіч рушыў на «Харлеі», які летась ДАІ атрымала ў падарунак ад амерыканскага вытворцы. Каштуе такая мадэль ад $35 тысяч.

Пад сынам кіраўніка краіны быў яшчэ даражэйшы матацыкл. Віктар Лукашэнка ехаў на Harley-Davidson CVO Road Glide Ultra мадэлі 2015 года, цана якога стартуе ад $55 тысяч. Каб зарабіць такія грошы, сярэдняму беларускаму работніку трэба працаваць 15 гадоў.



ДЗМІТРЫЙ ЛАСЬКО, KP.BY

## «Бо я яму ні храна і ён мне ні храна»

Феадалізм у асобна ўзятым раёне: як старшыня Касцюковіцкага райвыканкама прэміруе ўгодных і душыць няўгодных.

У «Нашу Ніву» прыйшоў зварот жыхароў Касцюковіцкага раёна, што на Магілёўшчыне. Аўтары сцвярджалі, што ў раёне квітнее карупцыя і, як вынік, — безгаспадарчасць. Звароты ў абласную пракуратуру вынікаў не далі. Людзі спадзяюцца цяпер толькі на СМІ.

Карэспандэнты выправіліся ў гэты раён, каб спраўдзіць пералічаныя ў звароце факты. Мы на свае вочы пабачылі кантраст між гаспадаркамі: у адных — парадак, у другіх — развал. Атрымалі і копіі распараджэнняў старшыні райвыканкама: тым, у каго парадак, — ніякіх прэмій. Тым, у каго развал, — прэміі 430% акладу.

Касцюковічы — горад на самым усходзе Беларусі. За ім пачынаецца Расія. Гаспадарка трымаецца на цэментным і спіртзаводах, а вёскі — на шрагу СПК.

Яшчэ на пад'ездзе да Касцюковіч на хуткасці не менш за 150 кіламетраў нашу машыну абагнала чорная «Вольва» — гэта старшыня райвыканкама Дзмітрый Віктаравіч Малашанка спяшаўся ў горад, у які ў той дзень павінен быў прыбыць з інспекцыяй старшыня Магілёўскага аблвыканкама Уладзімір Даманеўскі.

Мы яшчэ не раз узгадаем у тэксце гэтага самага Малашанку, які стаў кіраўніком Касцюковіч у сакавіку 2014, у свае 34 гады прайшоўшы шлях ад ветэрынара да старшыні калгаса і намесніка старшыні райвыканкама.

Яшчэ да прыезду ў раён нам удалося здабыць дакладную запіску на імя першага намесніка пракурора Магілёўскай вобласці Алега Пімашкова, у якой паведамляецца пра вынікі праверкі гаспадарак Касцюковіцкага раёна мясцовай пракуратурай за 2015—2016 год.

Гэтая інфармацыя нідзе ў СМІ не гучала. У праверцы ўсплываюць факты развалу і махінацый.

З гэтага мы і пачнём.

### «Недастача кармоў у колькасці 5361 тоны»

Асаблівая ўвага ў праверцы надаецца найбуйнейшаму СПК раёна — «Машавое», дзе кіраўніком пры Малашанку працавала Людміла Пратасава.

Пракуратура піша: «Па выніках праверкі ў СПК «Машавое» выяўлена недастача травяных кармоў у колькасці 5361 тоны. З улікам выяўленай недастачы забяспечанасць травянымі кармамі на зімовы стойлавы перыяд фактычна складае 25 цэнтнераў кармавых адзінак на ўмоўную галаву скаціны, тады як паводле тэхналогіі харчавання мінімальная патрэба травяных кармоў складае 28 цэнтнераў кармавых адзінак на адну ўмоўную галаву скаціны».

**Працяг на старонцы 4.**

## Кабякоў: Усё намнога горай, чым мы маглі меркаваць

«Хоць мы не на пустым месцы прагназавалі». **Старонка 3.**

## Жахі адной ночы на мытні «Каменны Лог»

Як наша чытачка Ядвіга Іконнікава везла з Літвы чатыры пакрышкі. **Старонка 10.**

## Навошта Марцінкевічу спатрэбіўся Дунін

Пачынальнік беларускай літаратуры містыфікаваў свой радавод, лічыць гісторык-архівіст Зміцер Дрозд. **Старонка 12.**

## Аматар роднае прыроды

Апавяданне Таццяны Барысік. **Старонка 15.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фотафакт**

**У 30-ю гадавіну катастрофы на ЧАЭС у Мінску прайшоў традыцыйны «Чарнобыльскі шлях». У масавай акцыі бралі ўдзел 700 чалавек. Арганізатары заклікалі да спынення будаўніцтва Астравецкай АЭС.**

# Журналісты выявілі на ферме каля Чарнобыльскай зоны радыеактыўнае малако

Афіцыёз сцвярджае, што яно **чыстае ад радыяцыі**.

Карэспандэнты *Associated Press* пабывалі на ўскраіне чарнобыльскай зоны адчужэння ў Беларусі, наведалі малочную ферму. Фермер Мікалай Чубянок з гонарам распавёў журналістам, што яго статак з 50 кароў вырабляе да дзвюх тон малака за дзень для мясцовага завода «Мілкавіта», сыр гатунку пармезан якога прадаецца ў асноўным у Расіі.

Журналісты не сталі каштаваць мясцовае малако, але ўзялі з сабой бутэльку для даследавання ў Мінскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Высветлілася, што ўтрыманне радыеактыўнага ізатопу ў прадукце ў 10 разоў перавышае гранічна дапушчальны ўзровень па мерках харчовай бяспекі краіны.

Падчас праверкі эксперты выявілі ў малацэ перавышэнне ўтрымання нуклідаў стронцыю-90. Згодна з нормамі Міністэрства сельскай гаспадаркі, актыўнасць стронцыю-90 у прадуктах не павінна перавышаць 3,7 бекерэля на кілаграм. У дадзенай пробе малака гэты паказчык склаў 37,5 Бк/кг.

Пад уздзеяннем стронцыю-90 у арганізме чалавека могуць развівацца анкалагічныя і сардэчна-сасудзістыя захворванні.

Спецыялісты мінскага навуковага цэнтра ў той жа час не змаглі праверыць малако на ўтрыманне складаных ізатопаў амерыцыю і плутонію.

Пасля таго, як расследаванне было апублікавана ў інтэрнэце, намеснік галоўнага доктара Мінскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Пётр Амвросьеў заявіў, што ў рэальнасці ўтрыманне цэзію-137 склала 1,1±1,77 Бк/л (норма 100 Бк/л), гэта значыць, малако адпавядае норме па ўтрыманні цэзію-137. А вымярэнне ўтрымання стронцыю-90, па яго словах, не праводзілася з-за недастатковасці дастаўленага аб'ёму малака.

Аўтар артыкула Юрась Карманаў паведаміў, што ў яго ёсць заключэнне Мінскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, у якім пазначана, што ўтрыманне стронцыю ў малацэ складае 37,5 Бк/кг. Даць для азнаямлення дакумент Карманаў адмовіўся, спасылаўшыся на абавязацельствы перад падпісчыкамі «Асашыэйтэд Прэс».

Гомельская малочная кампанія «Мілкавіта» назвала інфармацыю пра перавышэнне нормы радыенуклідаў у малацэ недакладнай і палічыла вынікі даследавання АР «немагчымымі». На заводзе сцвярджаюць, што, згодна з іх уласнымі тэстамі, узровень радыеактыўных ізатопаў у малацэ ніжэйшы за дапушчальны. «Малако, якое не прайшло ўваходны кантроль, мае перавышэнне па паказчыках радыяцыйнай бяспекі, на прадпрыемства не прымаецца», — сцвярджаюць на прадпрыемстве. Але і вяртання малака па перавышэнні радыенуклідаў у апошнія гады не фіксавалася. Праўда, па словах Карманава, на заводзе яму сказалі, што апошняе даследаванне праводзілі... паўгода таму.

Ферма Чубянка знаходзіцца за 45 км на поўнач ад Чарнобыльскай АЭС і за 2 км ад зоны, дзе людзям афіцыйна забаронена сяліцца. Вытворчасцю малака фермер займаецца з 2014 года і збіраецца падвоіць свой статак.

Вынікі даследавання кажуць пра тое, што наступствы самай маштабнай у свеце ядзернай аварыі усё яшчэ нагадваюць пра сябе ў Беларусі. Разам з тым кіраўніцтва краіны імкнецца хутчэй аднавіць землі сельскагаспадарчага прызначэння, якія доўгі час прастойваюць.

Лукашэнка ў час сустрэчы з намеснікам генеральнага сакратара ААН Хелен Кларк паведаміў, што Беларусь набыла ўнікальныя веды і досвед па пераадоленні катастроф, падобных да аварыі на Чарнобыльскай АЭС. «Няхай гэта будзе нашым унёскам у развіццё чалавецтва», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Паводле слоў Лукашэнкі, на аднаўленне пацярпелых тэрыторый выдатковая сума, роўная дзясяткам гадавых бюджэтаў Беларусі. «Мы збіралі гэтыя сродкі і ўкладвалі ў пераадоленне (наступстваў) гэтай катастрофы. Сёння нам ужо не здаецца, што гэтыя землі назаўсёды страчаныя, як гэта бачылася 30 гадоў таму», — адзначыў ён.

У выніку Чарнобыльскай катастрофы, якая адбылася 26 красавіка 1986 года, ад радыеактыўнага забруджвання пацярпела 23% тэрыторыі Беларусі, на якой знаходзілася 3678 населеных пунктаў.

Паводле афіцыйных дадзеных, у зоне радыеактыўнага забруджвання на 1 студзеня 2016 года знаходзіўся 2371 населены пункт. Колькасць насельніцтва, якое пражывае на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі, склала на пачатак года 1,14 мільёна чалавек (12% колькасці насельніцтва).

**БЮ**

**Фотафакт**



БЕЛТА

**Качанава фарбавала агароджу на месцы пахавання вязняў канцлагера «Дразды»**

Падчас рэспубліканскага суботніка віцэ-прэм'ер Наталля Качанава працавала на добраўпарадкаванні месца пахавання вязняў канцлагера «Дразды». Гэта адзін з першых у Беларусі лагераў смерці часоў нацысцкай акупацыі. У ім было расстраляна каля 10 тысяч чалавек.

## Сцісла

**Сярэдні заробак вырас на 480 тысяч рублёў**

Заробак «бруднымі» ў Беларусі за сакавік 2016 года вырас да 7,1 мільёна рублёў. Па тагачасным курсе гэта $344 у эквіваленце.

У Расіі афіцыйны заробак — $435, а ў Польшчы лічба перавышае 1000 еўра.

**Чатыры «гарады жаніхоў»**

У Беларусі налічваецца ўсяго чатыры гарады, дзе колькасць мужчын перавышае колькасць жанчын. Гэта Клічаў, Івацэвічы, Шклоў, Горкі. Адметна, што апошнія тры гарады — месцы знаходжання выпраўленчых калоній.

**БЮ**

**Мікалай Пінігін паставіў «Дзве душы» Гарэцкага**




Прэм'ера адбылася ў Купалаўскім тэатры 26 красавіка. Наступныя паказы — 27 красавіка, 8, 11, 24 і 25 мая.

## Апытанне на nn.by

Ці патрэбныя агульнанацыянальныя суботнікі?

| | | |
|---|---|---|
| Так | 41 | 4% |
| Не | 550 | 52% |
| Патрэбныя суботнікі, але асобныя, на месцах і па жаданні | 237 | 23% |
| Патрэбныя, але называць гэта трэба талака, а не суботнік | 173 | 17% |
| Я працую ў прыватным бізнэсе, і мяне гэта не датычыць | 47 | 4% |

Прагаласавала 1048 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 20 — 26 красавіка

1 АНТ пакарае журналіста, які пусціў у эфір ахінею віцэ-прэм'ера Калініна

2 Топ-5 галоўных момантаў звароту Лукашэнкі да Нацыянальнага сходу

3 Дар'я Шманай слухае выступ Лукашэнкі — фотафакт

4 Віктар Лукашэнка ездзіў на «Харлеі» коштам ад $55 тысяч

5 У Латвіі агрэсіўны бабёр узяў у палон мужчыну

6 Высокія пенсіі, гіганцкія штрафы і паўсюдная чысціня — украінскія стэрэатыпы пра Беларусь у рэпартажы кіеўскіх журналістаў

7 Пра што дэпутат пытаецца ў Лукашэнкі? Расшыфруйце аўдыё!

8 «Этна-стыль»: у Мінску прэзентавалі дызайнерскія рэчы з нацыянальным арнаментам

9 «Калгас!» vs «Пацанская тачыла!» — аб'ява аб продажы аўто з нацыянальным арнаментам выклікала ажыятаж у каментатараў

10 Зміцер Вайцюшкевіч: Калі сюды прыйдзе Расія, мяне да сценкі паставяць

# Пяць галоўных момантаў звароту Лукашэнкі да Нацыянальнага сходу

Сёлетняе пасланне Аляксандра Лукашэнкі да народа і парламента было прэсным і стрыманым. Ды і нядоўгім: працягвалася яно ўсяго паўтары гадзіны. Не нарадзілася новых хохмаў, хіба што «курыць — гэта безуміе». Асноўную частку прамовы Лукашэнка строга кіраваўся напісаным загадзя, рэдка сыходзячы ў экспромт.

«Наша Ніва» сабрала самыя істотныя, на наш погляд, пункты з выступлення кіраўніка дзяржавы.



### Хлопчыкамі на пабягушках у Расіі не будзем

Расіі традыцыйна быў прысвечаны дастаткова вялікі адрэзак прамовы. Лукашэнка, як заўсёды, пераконваў, што гэта нашы браты і наша доля — жыць у славянскім свеце разам з рускімі і ўкраінцамі. Аднак разам з тым больш істотнай выглядае фраза: «Я хачу сказаць расійскаму кіраўніцтву, што мы ніколі не будзем хлопчыкамі на пабягушках». Лукашэнка падкрэсліваў, што Беларусь і надалей будзе весці шматвектарную палітыку, а не засяроджвацца на адной Расіі. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліваў нядобрасумленную пазіцыю расійскага боку, а таксама часам нават моманты шантажу, напрыклад, калі Расіі адмовіліся прадаваць Мінскі завод колавых цягачоў. Па ўсім відаць, што адносіны Беларусі і Расіі на сёння далёка не мядовыя.

Што тычыцца Еўропы, то сённяшні стан адносінаў ён ахарактарызаваў як «гаварыльню». Лукашэнка сказаў, што зацікаўлены чыста ў эканамічных адносінах з Еўропай, у гандлі.

### Замяняць нафту і газ электрычнасцю

Пра змяншэнне залежнасці ад Расіі Лукашэнка гаварыў і ў частцы, датычнай атамнай станцыі. «Мазгі, навука, інавацыя — гэта галоўнае сёння, а не тое, што Госпад у зямлю паклаў», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

«У нас будзе лішак энергіі? Калі граматна паставіцца, ніякага лішку не будзе. Давайце замяняць нафту, газ электрычнасцю, дзе толькі можна. Чаму ў побыце не арыентаваць людзей на электрычнасць? Да гэтага трэба рыхтавацца цяпер».

«Моцна залежаць ад аднаго рынку збыту — нельга, гэта прывядзе да бяды», — казаў прамоўца.

### Шчодрая крытыка чыноўнікаў

Лукашэнка шмат, шмат крытыкаваў чыноўнікаў. За адсталасць, непаваротлівасць, безыніцыятыўнасць, нежаданне перабудоўвацца, жыць у новых рэаліях.

Вось прыклад: «Партфель праектаў Сусветнага банка для Беларусі — каля $1 мільярда. Гэта сродкі, якія ўжо можна выкарыстоўваць. Але з іх $600 мільёнаў да гэтага часу не задзейнічаны праз непаваротлівасць дзяржаўных органаў — цуды!»

Была крытыка Белспажыўсаюза. Калі яны не пачнуць варушыцца, Лукашэнка паабяцаў, што дазволіць канкурэнцыю з боку прыватнікаў. Калі казаў пра Беларуска-кітайскі індустрыяльны парк, абяцаў прыняць «жастачайшыя меры», у тым ліку кадравыя.

### Не заплаціш падаткі — будзеш сядзець

Ускосна Аляксандр Лукашэнка пракаментаваў гучныя крымінальныя справы супраць уплывовых у краіне бізнэсменаў, такіх як Юрый Чыж і Яўген Баскін.

«Кажуць, «кагосьці затрымалі, арыштавалі бізнэсмена, хутка прыйдуць іншых арыштоўваць». Канечне прыйдуць! Калі вы будзеце абдзіраць дзяржаву і не плаціць падаткі. І скажыце дзякуй, што вы яшчэ не ў Амерыцы. Галоўнае — выплата падаткаў. І можаш спакойна спаць, можаш не спаць — гэта твае правы. Але аддай тое, што ты павінен аддаць дзяржаве».

### Жоўтыя канспекты

Лукашэнка ці не ўпершыню ў станоўчым ключы гаварыў пра інтэрнэт. Казаў, што развіццё IT — вельмі важнае для краіны.

Затое дасталася настаўнікам школ, а таксама выкладчыкам універсітэтаў.

«Трэба выхаваць, нарадзіць новага настаўніка. Нарадзіць новых — гэта доўга. Таму нараджаць будзем, перарабляючы старое настаўніцтва. Трэба ўскалыхнуць нашага настаўніка».

«І мне, і вам трэба часцей быць у ВНУ, дзе рыхтуюць кадры. Прабачце, цяпер там учарашні дзень! Як былі жоўтыя канспекты і закасцянелыя погляды — гэтак і застаюцца».

Аднак слепа капіяваць заходнюю адукацыйную мадэль Лукашэнка не збіраецца. Зноў будзе шукаць унікальны беларускі шлях, вось толькі ці можа такі быць?

**Зміцер Панкавец**

# Кабякоў: Усё намнога горай, чым мы маглі меркаваць

«На жаль, тыя знешнія фактары, якія закладалі ў прагноз-2016, аказаліся нашмат горшыя, чым мы маглі меркаваць. Хоць мы не на пустым месцы прагназавалі — мы грунтаваліся на лічбах міжнародных фінансавых арганізацый», — прызнаў прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў у інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» тэлеканала «Беларусь-1».

Кіраўнік дзяржавы нядаўна наракаў, што матрыца прагнозных паказчыкаў па выніках першага квартала апынулася ў асноўным у чырвоным колеры. Галоўны «чырвоны» індыкатар, патлумачыў Кабякоў, — эканамічны рост. ВУП па выніках квартала ўпаў на 3,6%.

У выніку ўрад быў вымушаны прымаць меры па бюджэтнай кансалідацыі. «На 16 трлн рублёў мы зарэзервавалі выдаткі бюджэту. А гэта вельмі адчувальна — мы не маглі сабе дазволіць зачапіць сацыяльныя абавязацельствы, зарплаты, пенсіі», — адзначыў Кабякоў, дадаўшы, што паралельна ішоў пошук новых крыніц даходаў. Гэта было павышэнне ставак акцызаў на паліва («без павелічэння розьнічных цэнаў», — падкрэсліў прэм'ер) і тытунёвыя вырабы, адмова ад льгот па ПДВ на грамадскім транспарце («не павялічваючы тарыфы»).

«Вядома, урад прапаноўваў больш глыбокія меры, адчувальныя для насельніцтва. Кіраўнік дзяржавы з імі не пагадзіўся», — адзначыў Кабякоў.

Пры гэтым прэм'ер-міністр пагадзіўся з тэзісам аб наяўнасці ў беларускай эканоміцы фактараў росту: «Прэзідэнт абсалютна выразна сказаў, хоць камусьці можа падацца, што ў гэтым няма асаблівай навізны, — зніжайце выдаткі. Не прасіце грошы на падтрыманне стратнай і неэфектыўнай дзейнасці».

Ён запэўніў, што ўрад паспрабуе змякчыць сітуацыю, «але калі прадпрыемства не ў стане забяспечыць баланс паміж прыбыткамі і выдаткамі, то ўвогуле няма пра што размаўляць».

Гаворка ідзе пра тое, растлумачыў Кабякоў, што прадпрыемствы стратныя, неэфектыўныя, тыя, што просяць пастаянна дапамогу, павінны заняцца зніжэннем выдаткаў. «Многія думаюць, што пагавораць-пагавораць — і на гэтым усё скончыцца. А потым дадуць грошай — і ўсе пачнуць жыць прыпяваючы, праядаючы і спадзеючыся, што дадуць яшчэ. Гэтага не будзе», — запэўніў ён.

**Паводле tut.by**

## Макей: Беларусь і ЗША гатовы да поўнай нармалізацыі адносінаў

Беларусь і ЗША гатовыя да поўнай нармалізацыі двухбаковых адносінаў, заявіў журналістам міністр замежных спраў Уладзімір Макей 25 красавіка падчас цырымоніі адкрыцця памятнай дошкі амерыканскай супрацоўніцы ААН Рут Уолер у мінскай сярэдняй школе №130.



Удзел у цырымоніі ўзяла намесніца генеральнага сакратара ААН Хелен Кларк, якая прыбыла ў Мінск 24 красавіка, а таксама часовы паверанны ў справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд.

«Мы павінны глядзець адзін на аднаго не праз збройныя прыцэлы, а павінны размаўляць, мець адкрыты дыялог. Так, дыялог можа быць цяжкім, але мы павінны шукаць кампрамісныя рашэнні тых складаных пытанняў, якія здаюцца неправадольнымі», — сказаў кіраўнік МЗС.

На яго думку, Беларусь і ЗША цяпер якраз знаходзяцца на этапе «паступальнага пашырэння пазітыўнай атмасферы ў адносінах». «Я перакананы, што гэта працягнецца. У абодвух бакоў ёсць гатоўнасць да поўнай нармалізацыі нашых адносін. Мы маленькая краіна, і мы разумеем, якую ролю граюць ЗША ў свеце», — заявіў Макей.

Скот Роланд, адказваючы на пытанне аб магчымасці вяртання ў Мінск пасла ЗША, адзначыў, што «сёлета гэта можа быць тэмай для абмеркаванняў з МЗС Беларусі».

У адказ на гэта Макей «прадаў маленькі сакрэт», што на адной з апошніх сустрэч Лукашэнка сказаў Роланду: «Дык давайце мы вас прызначым паслом!»

**Паводле БелаПАН**

**Чаму няма пасла?**

У сакавіку 2008 колькасць супрацоўнікаў пасольства ЗША ў Мінску было скарочана па патрабаванні беларускага боку з 35 чалавек да пяці. Гэта адбылося пасля ўвядзення Злучанымі Штатамі санкцыяў у дачыненні да дзяржканцэрна «Белнафтахім» у сувязі з парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі. Крыху пазней пасол Беларусі ў ЗША Міхаіл Хвастоў быў адкліканы з Вашынгтона для кансультацый, а Мінск па патрабаванні беларускага боку пакінула пасол Карэн Сцюарт.

# Ахінею казаў віцэ-прэм'ер, а пакараюць журналіста

Увесь беларускі інтэрнэт смяяўся са словаў віцэ-прэм'ера Анатоля Калініна, якія трапілі ў эфір дзяржаўнага канала АНТ 20 красавіка.

У кароткім фрагменце інтэрв'ю Калінін выказаўся так заблытана, што гэта стала нагодай для жартаў. «Большасць нашых грамадзян карыстальнікаў IT-тэхналогіямі і інтэрнэт-рэсурсам з 9,5 мільёна грамадзян маюць абаненцкае прыкладанне і карыстанне каля 13 мільёнаў нашых грамадзян. Гэта сведчыць аб тым, што створаны рэсурс, які дазваляе любому карыстальніку выкарыстоўваць самыя сучасныя трафікі для ўкаранення інтэграцыі і развіцця сваіх магчымасцяў попыту інтарэсаў», — сказаў Калінін.

Як такі запіс трапіў у эфір?

«Журналіст прыехаў са здымак за дзве хвіліны да эфіру, — расказаў дырэктар інфармацыйнага вяшчання АНТ Руслан Паддубскі. — Не да канца адглядзеўшы відэа, ён змантаваў яго, выдаў. І праз тое, што бракавала часу, не было магчымасці яго прагледзець, праверыць. У нас жа звычайна відэа правяраецца выпускаючым рэдактарам. Гэтую памылку заўважылі, калі было ўжо позна».

«Віцэ-прэм'ер не пакрыўджаны. Гэта працоўныя моманты, ён усё разумее», — дадаў Паддубскі і адзначыў, што Калінін прыйдзе на АНТ і дасць інтэрв'ю Рыгору Кісялю [старшыня праўлення АНТ — **НН**], у якім патлумачыць сэнс сваіх словаў.

«Гэта неахайнасць журналіста, чыстая! Што з усяго інтэрв'ю выбралі менавіта некарэктную частку. І нейкія дысцыплінарныя меры да яго, безумоўна, будуць прынятыя, бо гэта парушэнне вытворчай дысцыпліны», — падсумаваў Паддубскі.

Перадача, у якой Калінін патлумачыць, дзе ўзяў 13 мільёнаў беларусаў, мае выйсці ў эфір 28 красавіка.

**Сяргей Гезгала**

# «Бо я яму ні храна і ён мне ні храна»

## Феадалізм у асобна ўзятым раёне: як старшыня Касцюковіцкага райвыканкама прэміруе ўгодных і душыць няўгодных

Кажучы проста, у «Машавым» намалявалі сабе статыстыку — 50,18 тонаў кармавых адзінак першага класа. Пры гэтым фактычна яны нархтавалі толькі 23,2 з аднаго балагектара сельгасугоддзяў, — менш за мінімальную норму.

Далей — цікавей. Менавіта СПК «Машавое» рашэннем Касцюковіцкага райвыканкама (№ 22-7 ад 11 лістапада 2015) было прызнанае пераможцам раённага конкурсу вытворчасці травяных кармоў сярод сельскагаспадарчых і іншых арганізацый раёна, атрымаўшы за гэта немалую прэмію з бюджэтных сродкаў.

Так выдуманыя лічбы пераўтварыліся ў рэальныя грошы. З вынікамі гэтай гісторыі будзе звязаная другая частка нашага расследавання, але гэта пазней.

Пакуль што чытаем у пракурорскай запісцы, што нават тую траву, што з горам папалам нарыхтавалі ў «Машавым», не здолелі захаваць.

«Пры правядзенні інвентарызацыі травяных кармоў у лютым 2016 у сянажнай траншэі СПК «Машавое» каля вёскі Кузьмінка знаходзіцца сенажная траншэя буртовым тыпам захоўвання, згодна з пашпартам 1720 тон. Пры ўскрыцці дадзенага бурта на паглыбленне 50 см выяўлена, што дадзены сянаж па знешніх прыкметах (гнілая травяная маса чорнага колеру) не прыдатны для корму скаціне», — гаворыцца пра лёс часткі нарыхтаваных кармоў.

Ну а далей пачынаецца проста неймавернае.

«На ўсіх фермах «Машавога» парушаюцца правілы ўтрымання жывёлаў: у кароўніках адсутнічае салома, стойлы загноеныя, выгульныя пляцоўкі запоўненыя гноем вышэй за 20 сантыметраў», — дакладваюць пракурору.

Высветлілася, што на «Машавым-2» скаціну кармілі адзін раз на суткі, часам з інтэрвалам у 30 гадзін!

Пракуратура загадала выправіць знойдзеныя парушэнні, але куды там.

Прыехаўшы 11 сакавіка праверыць стан фермаў, кантралёры знайшлі загадчыка фермы «Гаўрыленка» п'яным — у мужчыны ў крыві было 1,68 праміле.

Нічога выпраўлена не было — каровы так і стаялі галоднымі, у гноі і без пасцілкі.

Але гэта ўсё жывёлы, што ж людзі?



Аляксандр Чаркасаў — кіраўнік СПК «Парыжская камуна».



У «Парыжскай камуне» — парадак. Але старшыня райвыканкама не дае спакою яе кіраўніку

### Прыпісанае малако

Пракурор піша, што галоўная бухгалтарка Носікава на загады кіраўніцы СПК «Машавое» Пратасавай фальсіфікавала звесткі пра малако, каб тая потым незаконна атрымала прэміі.

Так, у дакуменце «Аб стане жывёлагадоўлі за студзень-снежань 2014 года» яны прапісалі колькасць рэалізаванага малака большую за сапраўдную, у выніку чаго Пратасавай налічылі прэмію ў памеры 3,8 мільёна за «павелічэнне тэмпаў росту рэалізацыі малака».

Ці пакаралі іх за гэта, спытаеце вы?

Носікавай далі толькі 10 базавых велічынь штрафу, а супраць Пратасавай завялі крымінальную справу ў лістападзе 2015 года, якая закрылася «ў выніку амністыі» ў сакавіку 2016.

«Яе нават пасадзілі ў камеру, але адбыўся цуд — выпусцілі, і літаральна на наступны ж дзень яе выканкам ганарова на пенсію праваджаў, — расказалі нам пра абставіны дзіўнага вызвалення Пратасавай мясцовыя жыхары. — Песні спявалі, кветкі дарылі. А яна сказала, што і яшчэ б папрацавала, а ўся зала рагатала».

У Малашанкі Пратасава (дэпутатка сельскага савета дэпутатаў, дарэчы) лічылася ўзорным кіраўніком.

Пра гэта ён сам казаў газеце «Магілёўскія ведамасці», называючы яе «паваротлівай», «дзелавітай» і «вопытнай».

І пашана выказвалася не толькі словамі — журналісты «Нашай Нівы» здабылі копіі распараджэнняў Малашанкі аб налічэнні заробкаў кіраўнікам СПК.

### Паваротлівыя і дзелавітыя

Высветлілася, што кіраўнікі, на чыіх фермах галодныя каровы стаяць па калені ў гноі, атрымлівалі проста гіганцкія для сяла грошы, якія мае не кожны мінскі праграміст.

Справа ў тым, што памеры заробкаў кіраўнікоў СПК залежаць ад «мэраў» — сваімі ўказамі яны прызначаюць ім штомесячныя прэміі, да 100% — гэта сярэдні заробак па галіне, які разлічваецца Белстатам.

У асобныя месяцы прэміі Пратасавай ды іншым кіраўнікам калгасаў даходзілі да 430%.

Так, за студзень 2014 года Пратасава атрымала заробак 21 мільён рублёў — па тагачасным курсе гэта было больш за 2200 даляраў!

У нас няма поўнай статыстыкі за кожны месяц, але па той, што ёсць, мы можам уявіць агульныя тэндэнцыі.

Так, паводле гэтых папер, вялізныя надбаўкі «за складанасць, напружанасць, адказнасць і павелічэнне паказчыкаў» атрымлівалі і кіраўнікі іншых гаспадарак, дзе пракуратура ў наступным выяўляла шматлікія парушэнні.

У СПК «Дуброва», напрыклад, за першыя два месяцы бягучага года загінула 27 галоў скаціны, а на паперы смерці жывёлаў пераўтвараліся ў «рэалізацыю мяса насельніцтву». Кіраўнік «Дубровы» Аўчыннікаў таксама меў заробкі з 300% прэміямі (за студзень 2014 — трохі болей за 2000 даляраў).

### «Сшывала дакументы пры дапамозе электрычнага дрыля, і яны згарэлі»

Асаблівай увагі заслугоўвае канстатацыя пракуратурай факта, што Касцюковіцкі РАУС неаднаразова адмаўляў у завядзенні крымінальнай справы ў дачыненні да галоўнага бухгалтара КСПК «Сялецкае» Саўчанка Л. па факце ўзгарання ў яе кабінеце, у выніку чаго пагарэла фінансавая справаздачнасць за некалькі гадоў.

Пажар у яе кабінеце адбыўся напярэдадні разгляду чарговага ананімнага звароту ў магілёўскую міліцыю па «пытаннях гаспадарчай дзейнасці, стану бухгалтарскага ўліку на сельгаспрадпрыемстве КСПК «Сялецкае».

Як жа Саўчанка Л. тлумачыла пажар, што ў мясцовай міліцыі не засталося пытанняў што да яго натуральнасці?

«У сваім тлумачэнні ад 11 снежня 2014 года галоўны бухгалтар КСПК «Сялецкае» Саўчанка Л.П. патлумачыла, што напярэдадні пажару, 3 снежня 2014, яна сшывала папяровыя дакументы пры дапамозе электрычнага дрыля. Падчас свідравання дзірак ад папер ішоў дым. Прасвідраваўшы дзіркі, яна склала ўсе дакументы ў шафу, былі бачныя языкі полымя», — значыцца ў пракурорскай праверцы.

І следчыя верылі ў гэтую бязглуздзіцу?

Толькі 30 чэрвеня 2015 года на патрабаванне пракуратуры гэтая гора-бухгалтарка была адхіленая ад сваёй пасады. Пры гэтым нанесеную шкоду пракуратура ацаніла амаль у 145 мільёнаў рублёў.

А крымінальную справу на яе завялі толькі пры канцы сакавіка 2016 года, праз паўтара года!

Старшыня гэтага калгаса, Агееў, дарэчы, з тых часоў не змяніўся — сёння ён зарабляе каля 30 мільёнаў за месяц.

Апроч іншага, можна дадаць, што па стане на 2016 год у гаспадарках Касцюковіцкага раёна пракуратурай выяўлены 23 адзінкі непрацуючай тэхнікі, якая знаходзіцца ў непрацоўным стане і пры гэтым перададзена гаспадаркам у лізінг.

Таксама пракуратура высветліла, што ў знак пратэсту на дзеянні кіраўніцтва калгасаў у мінулым годзе ў пракуратуру прыйшла адна «ананімка», а за першыя месяцы 2016 — ужо тры. Таксама, пратэстуючы супраць дзеянняў адміністрацыі, у некаторых гаспадарках працоўныя падмешвалі ў малако антыбіётыкі, каб яго не прымалі заводы і, у выніку, кіраўніцтва страчвала грашовыя падбаўкі «за рост прадукцыі».

Таксама пракуратура выявіла яшчэ некалькі фактаў спісання малака, прыпісак паказчыкаў і парушэнняў экалагічных нормаў, але гэта ўсё дробязь у параўнанні з тым, што мы накапалі далей.

Але варта адзначыць, што ўся гэтая «праверка» скончылася толькі адной крымінальнай справай.

### Як «мэр» сабатуе

Калі мы вывучалі дакументы аб налічэнні прэмій кіраўніцтву калгасаў, нам у вочы кінулася разбежка ў заробках некаторых старшынь.

Так, звычайна гіганцкія прэміі налічваліся адным і тым жа кіраўнікам, у той час як іншыя альбо іх зусім не атрымлівалі, альбо атрымлівалі мінімальныя.

Сярод іх такія два чалавекі — Аляксандр Чаркасаў, старшыня праўлення СПК «Парыжская камуна» і Раман Бязручанка, старшыня КСПК «Калгас «Прагрэс».

Так, за студзень 2014 года Чаркасаў атрымаў толькі 4 мільёны (калі Пратасава, напрыклад, 21), а за люты 2016 Бязручанка з Чаркасавым таксама атрымалі трохі болей за 4 мільёны.

Таму, прыехаўшы ў Касцюковічы, мы найперш скіраваліся ў гэтыя калгасы.

Жыхары Муравілля, дзе месціцца ферма «Парыжскай камуны», расказалі, што паміж іхнім кіраўніком і «мэрам» — востры канфлікт.

За апошні час Малашанка ініцыяваў тры пасяджэнні райвыканкама, на якіх прымушаў сяброў праўлення СПК звольніць Чаркасава з пасады (паводле нашых законаў, рашэння аднаго толькі «мэра» для такой працэдуры недастаткова), але




**Касцюковіцкі раён** размешчаны на ўсходзе Магілёўскай вобласці, каля мяжы з Расіяй. У Касцюковічах жыве каля 16 тысяч чалавек. Чыгуначная станцыя горада называецца Камунары, яна стаіць на лініі Крычаў—Унеча (Расія).

В своем первоначальном объяснении от 04 декабря 2014 г. главный бухгалтер КСПК «Селецкое» Костюковичского района Савченко Л.П. пояснила, что по приезду на работу она заметила через окно пожар в кабинете бухгалтерии и позвала на помощь. От чего произошел пожар она не знает. В кабинете была электрическая розетка, в котором что-то искрилось.

В своем объяснении от 11 декабря 2014 г. главный бухгалтер КСПК «Селецкое» Костюковичского района Савченко Л.П. уже пояснила, что накануне пожара, 03 декабря 2014 г. она сшивала бумажные документы в дела и проделывала отверстия в бумагах при помощи электрической дрели. При сверлении отверстий от бумаг шел дым. Просверлив отверстия, она сложила все дела в шкаф, а на следующий день, когда пришла на работу, то заметила, что из шкафа, где лежали дела с документами, были видны языки пламени.

В объяснении от 29 января 2015 г. Савченко Л.П. уже пояснила, что когда она приехала на работу 04 декабря 2014 г. и зашла в кабинет бухгалтерии в административном здании, то при включении света перегорела электрическая лампочка. Она решила поискать запасную лампочку в шкафу, где лежали документы, но так как света не было, то она стала светить спичками в шкафу, а не сгоревшие до конца спички бросала. Не найдя лампочки она вышла из кабинета и направилась в старый архив. Минут через пять вернулась в кабинет и заметила, что из

**Калі не сыходзяцца лічбы, гараць дакументы.**



**Ад начальніцкага самадурства церпяць, урэшце, усе жыхары.**

кожны раз 6 сяброў праўлення рашуча выказваліся супраць такой ініцыятывы, стоячы гарой за свайго кіраўніка.

Чаму? Пра гэта нам параілі спытаць самога Чаркасава.

Той, праўда, спачатку нічога не хацеў казаць. Але даведаўшыся, што нам вядома пра вынікі пракурорскай праверкі і сумы налічаных заробкаў, усё ж загаварыў.

Фатаграфавацца старшыня, дарэчы, рашуча адмовіўся. Бо «ўвесь брудны з работы» і «вы ж, здаецца, апазіцыя, няма чаго майму фота ў вашай газеце рабіць».

Чаркасаў стаў старшынёй «ПарКамуны» неўзабаве за Малашанкам, пасля таго як той стаў «мэрам».

Лічы што адразу пачаўся і канфлікт з новым старшынёй, пра які цяперака ведаюць ва ўсёй вобласці. Ён то згасаў, то пачынаўся зноў.

Стартам стала тое, што Чаркасаў звольніў з «ПарКамуны» свайго намесніка, які некалі быў кіроўцам у Малашанкі.

«Па шчырасці, ён нічога не рабіў, прызвычаіўся хадзіць рукі ў брукі, а атрымліваў 6 мільёнаў. Ну, і так проста і казаў, што трэба грошай занесці. Каму — вядома. Толькі колькі не прамаўлялася, але размовы такія хадзілі. Ды як я яго турнуў, то адразу ж пачаліся праверкі ў мяне, і УБЭЗ прыязджаў, і іншыя, але нічога не знайшлі, потым канфлікт наш сцішыўся», — расказаў нам старшыня СПК.

Але з таго часу прэміяльныя надбаўкі ў Чаркасава сталі меншаць. Чаму?

«Бо я яму ні храна і ён мне ні храна», — кажа Чаркасаў.

«Я за руку нікога не браў, але месца ж малое, хто па п'яні дзе ляпне, хто яшчэ як, таму чуў, што з тых заробкаў па 30 мільёнаў негалосна 40% трэба аддаваць назад, так бы мовіць», — выказаў свае падазрэнні Чаркасаў.

Ці не таму кіраўнік раёна хоча зняць Чаркасава з пасады, што гэты чэсны старшыня не хоча ўдзельнічаць у нейкіх схемах?

Зачэпкай для разборак стала справа з той прыпіскай кармоў, якую выявіла пракурорская праверка.

«Яны ж кармы прыпісалі, цяпер у некаторых гаспадарках жывёлу карміць няма чым. Сёння паелі — заўтра не паелі. Малашанка патрабуе, каб я дзяліўся сваімі кармамі бясплатна, а я не даю — прадаю ў Бабруйск. Ну, не прадаю, а мяняю на быкоў. Бо я ж ведаю: зараз я дам ім нават па даверанасці травы, а мне потым нічога не вернецца, а калі вернецца, то няскора. Мне, як кіраўніку, трэба, каб усе працэдуры былі выгадныя СПК, зразумейце. У іншых гаспадарках праблемы, вось «мэр» і лютуе, але мне што да іхніх праблемаў? Працаваць трэба было, а не займацца абы-чым», — сказаў Чаркасаў і дадаў, што пазбаўленне годнага заробку — гэта проста такі шлях ціску, каб ён сышоў.

«Я вось 4 мільёны зарабляю, жонка мая яшчэ дзесьці 5. Вось на 9 мільёнаў і жывём. У мяне нават намеснік зарабляе больш за мяне, бо я бачу, што стараецца, больш за 7 мільёнаў яму налічваю».

«Гэта маё рашэнне, і паспрабуйце яго адмяніць», — цытуе словы «мэра» пра налічаныя прэміі Чаркасаў. — Мяне прэзідэнт паставіў, што хачу, тое і раблю», — кажа Малашанка.

Ці праўду кажа Чаркасаў? Нам удалося здабыць аўдыёзапіс аднаго з пазачарговых пасяджэнняў Касцюковіцкага райвыканкама, якое адбылося 10 красавіка.

### «Супраць ветру сцаць марна»

Каб правесці пазачарговае пасяджэнне, дарэчы, трэба атрымаць дазвол у аблвыканкаме. Звычайна такія пасяджэнні склікаюцца па вельмі істотных і неадкладных справах.

Тут жа ўсё зводзілася да таго, каб яшчэ раз націснуць на Чаркасава, але сам ён не прысутнічаў.

«Чаго Сан Саныча вызваляем? — пачынае Дзмітрый Малашанка пасяджэнне з абгрунтавання прычын свайго недаверу. — Не скажам, што па рабоце дзесьці неяк... Не найгоршы кіраўнік, але ёсць такое паняцце — павага выканкама. А калі выканкам даверыў кантракт яму, то ён мусіць дзейнічаць у гэтых рамках. Вы ж самі [да кагосьці звяртаючыся] вучылі: супраць ветру сцаць марна, калені будуць мокрыя». Да таго ж набраў ската ў Бабруйскім раёне невядома якога без узгаднення з выканкамам. [Далей неразборліва, гаворка пра нейкія МАЗы]».

«Калі я сказаў, што ён не будзе працаваць, то ён не будзе працаваць. Гэта азначае ўсё. Калі вы не хочаце малой крывёю... Вы будзеце ляжаць пластом. Краму прыкрыў. Нейкія траншы паліва будуць — я іх проста забяру і аддам у іншы калгас. Калі [звальненне] падпіша губернатар, то мне ваша праўленне як сабаку пятая нага», — пагражае Малашанка.

Хтосьці з сяброў праўлення «ПарКамуны» адказвае яму, што хай возьме любую іншую гаспадарку і скажа, у якой няма праблем.

«Любую, канечне! Гэта ў любой [праблемы], правільна, у любой! Але людзі ж спайкойна пішуць заявы і сыходзяць!» — парыруе Малашанка і прызнаецца, што гэта раней ён хваляваўся за «ПарКамуну», а цяпер, маўляў, «ні грама не хвалюецца».

Цягам усяго пасяджэння сябры праўлення пярэчылі Малашанку, чым выклікалі ў яго яшчэ больш раздражнёную рэакцыю.

«Я вам прапаную яго сёння ж адхіліць», — кажа Малашанка.

«А што зменіцца? Ці мы так будзем, ці гэдак. Лепш хай закупачныя цэны на прадукцыю павысяць, то тры гады не падымаюцца. І будуць лепшыя паказчыкі», — заўважае хтосьці з сяброў праўлення.

Нейкі голас, відаць, намесніка Малашанкі, кажа, што «аб'ектыўна, за кіраваннем Чаркасава СПК скатваецца...».

Яго перабівае эканамістка «Парыжскай камуны».

«Дзе ж яно скатваецца, дзе ж яно скатваецца? У нас толькі з малаком праблемы», — чуецца голас жанчыны.

Тут Малашанка не вытрымлівае.

### «Усё адрэзаць!»

«Усё адрэзаць, а я зараз адпраўлю туды і МНСку, санітарку. Усё запар. Не хочаце нармальна... Перад мясакамбінатам 300 мільёнаў пазык. Увесь стары касцяк разагналі. Хто там цяпер працаваць будзе? Пруднікаў [нейкі кіроўца]? Зараз каманду ДАІ дам, хай правераць. Калі я раней прасіў — не чапайце Пруднікава супрацьзаконна, але зараз... Проста, як гэта сказаць... Едзьце і знайдзіце якія тэхагляды, якое што там. Правярайце ўсіх і ўсё. Усё ў рамках закона», — крычыць Малашанка. «Навошта вам гэта? — чуецца іншы голас. — Вы не зацікаўленыя, каб калгас квітнеў?»

«Выканкам аб'ядноўвацца з цяперашняй уладай [калгаса] не будзе, гэта не аднадумцы. Калі б мне ў свой час [былы мэр] даў каманду камунскі сілас не грузіць, а я б яго загрузіў... Вось такое бывае. А сёння даецца каманда не грузіць, а вы грузіце... Пра які давер і ўзаемапомач тут можна казаць? Аляксеіч, даць каманду выкрасліць «ПарКамуну» са свайго спісу: і паліва, і ўсё астатняе, выкрэслівай, хай думаюць самі. Магазін... Я зараз дам [загад], каб ты кантраляваў кожны дзень. Не дай бог адкрыюцца — тысяча базавых на калгас, пракурор дапаможа [неразборліва]», — сканчвае «мэр».

Пад «адгрузкай сіласу» маецца на ўвазе той корм, які Чаркасаў абмяняў на быкоў для сваёй гаспадаркі замест таго, каб «падарыць» іншым па загадзе Малашанкі.

Нас вельмі ўразіў гэты маналог кіраўніка раёна. Але варта дадаць, што раней, калі мы яшчэ сядзелі ў кабінеце у Чаркасава, гутарыць нам замінаў гук працуючага электрагенератара. Іншая электрычнасць наўпрост адсутнічае, бо адключаная. Як сцвярджае дырэктар СПК, па загадзе «мэра».

«Святло нам адключылі, бо не аплачана. Ну як, палова толькі аплачаная. А ў некаторых [калгасах] зусім не аплачана, а адключаюць толькі нам. Звоніць дырэктар альбо начальнік участка электрасетак і кажа, «каб ты ведаў — пакаранне адключэннем», — кажа старшыня калгаса.

На пытанне, чаму ж тады СПК цалкам не можа пагасіць запазычанасць па святле, Чаркасаў адказвае, што яны і заплацілі б, калі б ім дазволілі здаць скаціну на мясакамбінат.

«Ёсць каровы ў нас па 600—700 кілаграм. Бесталковая скаціна, старая, ужо не ацеліцца і малака мала дае, псуе справаздачнасць у сярэдніх лічбах. Такіх адразу на мяса трэба — грошы ў калгас. А так мы іх толькі кормім, поім, нясём страты, бо старшыня райвыканкама не дае ветпасведчання», — кажа Аляксандр.

Паводле старшыні калгаса, такіх кароў у яго 150. Па грубых падліках, на ўтрыманне адной галавы сыходзіць недзе 45—50 тысяч у дзень — а гэта каля 7 мільёнаў стратаў ад прастою штодзень!

А каб гэтых кароў здаць, трэба атрымаць г.зв. ветпасведчанне на жывёлаў, якое можа выдаць ветэрынарная станцыя. А яго «Парыжскай камуне» не выдаюць нібыта па загадзе «мэра».

Мы не паверылі, што старшыня райвыканкама можа займацца такім дробязным сабатажам падначаленых гаспадарак, і папрасілі Аляксандра Чаркасава пры нас патэлефанаваць кіраўніцы раённай ветстанцыі з пытаннем, ці можна яму здаць кароў на мяса.

Вось які ў іх атрымаўся дыялог (аўдыёфайл выставім на сайт).

**[Галоўны ветэрынар раёна]** Прыйшла здаровая карова, я: дапусцім, так, мы дапусцілі, мы маглі яе пусціць, я выпісала ялавічыну, у іх быў акт. [Гаворка пра папярэднюю спробу здаць кароў — рэд.]
**[Чаркасаў]** Ну.
**[Галоўны ветэрынар раёна]** Я яго выпісала, ну і ўсё, а куды гэтыя дзеў, х.. іх.
**[Чаркасаў]** А ён што табе мазгі дурыць?
**[Галоўны ветэрынар раёна]** Я не ведаю, я была на нарадзе цэлы дзень, выклікалі ў Клімавічы.
**[Чаркасаў]** Дык а пазваніў і што сказаў?
**[Галоўны ветэрынар раёна]** Малашанка званіў па гэтым мясе.
**[Чаркасаў]** І што казаў?
**[Галоўны ветэрынар раёна]** А?
**[Чаркасаў]** І што казаў?
**[Галоўны ветэрынар раёна]** Што якога х.. там мяса? Хто яму выпісаў сертыфікат? Чаму там ляжыць даведка твая, выпісаная?
**[Чаркасаў]** Ну зразумела, ладна.
**[Галоўны ветэрынар раёна]** Карацей ой, п…ц, больш няма сілы.
**[Чаркасаў]** Што, з…ў так?
**[Галоўны ветэрынар раёна]** Ну ён за…ў, Саш, людзі пастароннія нават узяць, чаго я не магу выпісаць гэты?



**СПК «Дзямідавіцкі» — плёнка на вокнах, дзіркі ў даху. Такі стан фермы не перашкаджае райвыканкаму выпісваць прэміі, а ўгодным кіраўнікам СПК іх атрымліваць.**

**Працяг на старонцы 6.**

# «Бо я яму ні храна і ён мне ні храна».

## Феадалізм у асобна ўзятым раёне: як старшыня Касцюковіцкага райвыканкама прэміруе ўгодных і душыць няўгодных

Працяг са старонкі 5.

… Атрымліваецца, усім з фермы выпісваю кароў, а атрымліваецца прынцып толькі адзін: калі табе выпісалі, то ўсе людзі пакутуюць праз цябе, што я табе выпісала.
**[Чаркасаў]** Ну зразумела.
**[Галоўны ветэрынар раёна]** Гэта ж Чаркас, гэта ж Чаркасу выпісалі…

МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
МОГИЛЁВСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
КОСТЮКОВИЧСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

РАСПАРАДЖЭННЕ
РАСПОРЯЖЕНИЕ

09.03.2016 № 42р

г. Касцюковічы
г.Костюковичи

О запрете на выезд
Черкасова А.А.

В связи с вызовом 11 марта 2016 года к первому заместителю председателя Могилевского облисполкома Чикида О.И. по кадровому вопросу

1. Черкасову Александру Александровичу, председателю правления КСПК «Колхоз «Парижская коммуна» запретить выезд 10 марта 2016 года в Республику Венгрия для отбора овец.

2. Контроль за выполнением настоящего распоряжения возложить на первого заместителя председателя райисполкома, начальника управления сельского хозяйства и продовольствия Ефимчикова А.А.

Председатель районного исполнительного комитета Д.В.Малашенко

**Самадурства — «забараніць выезд для адбору авечак».**

Калі ж мы папрасілі Чаркасава набраць канкрэтна Малашанку з пытаннем, чаму ён сабатуе дзейнасць калгаса, той адмовіўся.

«Пасля таго, як ён назваў забароны на продаж «маімі цяжкасцямі», я з ім больш не гавару на гэты конт, бо «на...й — за...й» атрымліваецца. Не хачу нерваў псаваць», — сказаў старшыня СПК.

Пагаварыўшы з эканамісткай «ПарКамуны» Марынай Мысліўцавай, мы даведаліся яшчэ пра адну цалкам ідыятычную сітуацыю, якую інакш, як сабатажам, не назавеш.

### «Забараніць выезд»

Так, у межах рэспубліканскай праграмы развіцця авечкагадоўлі СПК «Парыжская камуна» заключыла з Венгрыяй кантракт на 5,6 мільярда рублёў — на гэтыя грошы венгры мусілі паставіць у калгас племянных авечак. І 10 сакавіка старшыню калгаса чакалі там для адбору жывёлаў.

Ужо афармілі візу і аплацілі квіткі, як літаральна напярэдадні паездкі, 9 сакавіка, у калгас прыходзіць пісьмовае распараджэнне «мэра» аб забароне Чаркасаву выезду ў Венгрыю!

«Чаркасаву Аляксандру Аляксандравічу забараніць выезд 10 сакавіка 2016 года ў Рэспубліку Венгрыя для адбору авечак», — піша Малашанка.

Кантроль (!) за выкананнем гэтага даручэння «мэр» ускладае на свайго першага намесніка.

Фармальна ж прычынай забароны стала тое, што 11 сакавіка Чаркасава нібыта выклікае да сябе намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Алег Чыкіда.

Мы патэлефанавалі Чыкіду, каб праўдзіць гэтую інфармацыю.

Вядома, што той нічога не ўспомніў, сказаўшы, што не можа даць дакладны адказ, ці выклікаў да сябе ў той дзень Чаркасава.

Але старшыня «ПарКамуны» сцвярджае, што ніякіх загадаў ад Чыкіды ён не бачыў. Зрэшты, супрацоўнікам пракуратуры не складзе цяжкасці высветліць, ці быў насамрэч такі загад, бо ўсе афіцыйныя распараджэнні маюць свой нумар.

Зрэшты, усё адно камусьці давядзецца ехаць па тыя авечкі — афармляць візы, купляць квіткі і г.д, калі венгры не перадумаюць, вядома.

### «Мы ўсе тут супраць вызвалення Чаркасава»

Яшчэ трохі пагаварыўшы з эканамісткай «ПарКамуны», мы даведаліся, што яе сям'я ўвогуле вельмі пацярпела ад дзеянняў новага «мэра».

«Мы ўсе тут супраць вызвалення Чаркасава ад кіраўніцтва СПК. Колькі ўжо нас Малашанка склікаў, адзінагалосна галасуем супраць. Я сама вельмі добра гэта разумею, бо і я, і мой муж страцілі ранейшую работу менавіта праз Малашанку», — сказала жанчына.

«Я раней працавала рэвізорам у эканамічным упраўленні аблвыканкама, потым пайшла ў дэкрэт, — расказала Марына Мысліўцава, эканаміст «ПарКамуны». — Мой муж у той час рабіў на Райаграпрамтэхэнерга, і мяне на другім годзе Малашанка запрасіў пайсці на работу тут, у райвыканкам, эканамістам. Ну я пагадзілася, пайшла. А потым мужа майго звольнілі — яму Малашанка дурныя загады даваў, вы самі з ім пра гэта паразмаўляйце. Зрэшты, пра што тут казаць, калі ў яго ў аддзеле раслінаводства працуе настаўнік фізкультуры? Ну і потым адразу пачалі мяне выжываць. Мне то адзін загад на паўзбаўленне прэміі, то другі. Сабралі неяк у выканкаме людзей, чалавек дзесяць, і, маўляў, мы спазніліся на працу. Пры гэтым гадзіннік у выканкаме быў пераведзены наперад, гэта камп'ютаршчык нам сказаў, бо ў яго кабінеце час дакладны — па інтэрнэт-серверы. Ён і адстойваў, што ніхто не спазніўся, а гэта правакацыя. Ну, сябе адстаяў, а мяне зноў пазбавілі прэміі. Выжылі. Я напісала заяву назад у дэкрэтны адпачынак. Мне сказалі адразу і на звальненне пісаць, але я не стала. Потым прыйшла да Чаркасава працаваць, бо больш няма куды, усё тут з Малашанкам звязана, а «ПарКамуна» як асобная дзяржава».

### «Каманда — не браць»

Мы адшукалі і мужа жанчыны, былога кіраўніка Касцюковіцкага райаграпрамтэхэнерга Рустама Мамоніна.

Фатаграфавацца для «апазіцыі» ён таксама адмовіўся, але гісторыяй сваёй падзяліўся, маўляў, немагчыма болей трываць.

Вось што ён расказвае.

«У лютым 2015 мяне звольнілі. Таму што я выказаваў сваё меркаванне, вось чаму. Увогуле, тут шмат людзей павылятала і на іх месцы селі іншыя, выгадныя аднаму чалавеку. А мяне канкрэтна Малашанка прымушаў браць грашовыя сродкі ў камунальных прадпрыемстваў. У студзені ў мяне была дэбіторская запазычанасць 11 мільярдаў [«дэбіторка» — гэта калі вінныя вам, а не вы. — Рэд]. Трэба было закрываць заробкі. А дзе ўзяць грошы? Толькі ў вышэйстаячай арганізацыі, якой мы падпарадкоўваемся. Я і чакаў, пакуль будзе транш. А тут прылятае Малашанка і кажа, каб я браў грошы ў камунальных прадпрыемстваў — у Водаканала, напрыклад, яшчэ дзе. Я адмовіўся, бо як мне ўзяць у іх грошы? Яны мне не вінаватыя, а стану вінаватым я. А ён мне кажа: «Ну і пайшоў на...й адсюль. Пішы заяву без даты на звальненне і бяры грошы, як я сказаў. Інакш прыцягваем сілавікоў і заводзім крымінальную справу». Ну я і пайшоў, і напісаў, але нічога не ўзяў. Па выніку ўсё атрымалася так, як я казаў: вышэйшая арганізацыя закрыла нам заробак, а потым і дэбіторская зменшылася. Але яму вось не спадабалася, што я не паслухаўся», — сказаў Рустам.

«Ну ладна, звольнілі дык звольнілі. Але што мяне забіла, дык што ён пачаў пераследаваць мяне, далей жыццё ламаць. Нібы яму гэта ў задавальненне, ці што. Мне, карацей, працаваць жа недзе трэба было, ну і прапанавалі ў камунгас майстрам ісці. Я думаю: ну ладна, чалавек з вышэйшай адукацыяй, пайду майстрам. І тут кіраўнік камунгаса ўсё ж кажа: «Пайду спытаю ў Малашанкі», а той кажа — не бяры».

«Потым мой сябра стаў старшынёй СПК «Машавое», не доўга, тры месяцы быў. Але кажа: давай намеснікам вазьму, а потым і ён: ведаеш, нельга, даруй. Каманда — не браць.

«А потым у Хоцімску, у суседнім раёне, старшыня райвыканкама Дземідзенка кажа: у камунгас дырэктарам пойдзеш? Ужо і кватэру мне даваў, і працоўную кніжку я завёз. А потым мне набралі і сказалі, што вы нам не падыходзіце. Як мне потым расказвалі, справа так была: на відэаканферэнцыі з мэрамі ў губернатара праскочыла такая фраза, калі ён да Дземідзенкі звяртаўся. Маўляў, у цябе там у камунгасе праблемы, я ведаю, але ў цябе ж ёсць новы чалавек з Касцюковічаў — мяняй кіраўніцтва. Ну а потым Малашанка пачаў выпытваць, што за чалавек. Калі даведаўся, што Мамонін, пачаў Дземідзенку званіць і расказваць, што я такі-сякі, арганізацыю дая...ў, мяне падставіў, калі возьмеш — то нажывеш сабе праблем. Вось так. І што мне цяперака, ісці красці? Двое дзяцей у мяне, а на работу нікуды не бяруць. І такая сітуацыя не толькі ў мяне. У нашым раёне ёсць людзі, знаныя будаўнікі, маюць прэзідэнцкія ўзнагароды ў сваёй галіне, а ў Малашанкі эканаміст працуе намеснікам па будаўніцтве!» — на эмоцыях распавёў нам Рустам і дадаў, што калі ў бліжэйшы час не знойдзе работы ў Беларусі, то паедзе ў Расію.

«Рускія разумна робяць — яны нашых кіраўнікоў пераваблiваюць. У мяне ўжо колькі знаёмых там робяць, іх там не гнабяць, даюць рабіць. І мяне ўжо запрашалі, але я ў Беларусі хачу. Ведаеце, пасля ўсіх гэтых санкцый рускія пачалі свае фермы будаваць, я прыязджаў, бачыў. Здаецца, праз пару гадоў нас дагоняць, а потым і перагоняць», — упэўнены Рустам з той агаворкаю, што гэта адбудзецца, калі ў раёне нічога не зменіцца.

Дарэчы, пасля размоваў з людзьмі мы яшчэ праехаліся па фермах, каб на свае вочы глянуць, што там робіцца. Але не заязджалі ў тыя СПК, якія фігуруюць у пракурорскай праверцы.

Былі мы, напрыклад, на фермах СПК «Дземідавіцкі» — у працы гэтага СПК пракуратура выявіла толькі дробнае парушэнне гігіенічных правілаў.

Але што мы ўбачылі?

Тэрыторыя фермы такая, што там не праехаць і на ўсёдарожніку. Каровы стаяць без падсцілкі, на дахах фермы — дзіркі, на вокнах — цэлафан. І што самае дзіўнае, пракуратура, у адрозненне ад нас, не ўбачыла, што ў ямах для сіласу пуста.

А вось фота з фермы пазбаўленага прэмій Чаркасава.

Чысціня, бетонныя дарогі на ферме, ямы з кармамі.

У Касцюковічах кажуць, што супраць прызначэння Малашанкі старшынёй Касцюковіцкага райвыканкама ў свой час выступаў памочнік прэзідэнта па Магілёўскай вобласці Генадзь Лаўранкоў. Аднак рашэнне ўсё ж было прынятае, бо прызначэнню паспрыяў былы мэр Касцюковіч, а цяпер кіраўнік холдынгу «Беларуская цэментная кампанія» Уладзімір Кісялёў.

Супрацоўнікі мясцовых гаспадарак шмат чаго нам расказалі пра дробныя карупцыйныя схемы ў сельскай гаспадарцы раёна — гэта і фіктыўны крадзеж тэхнікі, і продаж угнаенняў у Расію, і закупы запчастак па завышаных цэнах. Але мы не змаглі знайсці доказы пералічаным фактам праз адсутнасць спецыяльных магчымасцяў.

«Калі ўсе тут загавораць, то «мэру» гадоў на 20 хопіць, адно што раней баяліся», — так сказаў нам адзін мясцовы кіраўнік.

Мы патэлефанавалі і старшыню райвыканкама Дзмітрыю Малашанку і папрасілі адказаць на пытанні, якія ў нас узніклі пры падрыхтоўцы гэтага матэрыялу. Але ён кінуў трубку праз 15 секунд размовы, як толькі даслухаў першае пытанне. Наступныя спробы дазваніцца поспеху не мелі — ён «скідаў» званкі.

**Арцём Гарбацэвіч, фота Сяргея Гудзіліна**

**Праблемы Касцюковіч — гэта праблемы сістэмы, пры якой старшыня райвыканкама — цар і бог.**

# «Рускі свет» у нашых думках і душах»: Кебіч напісаў кнігу з тлумачэннем, чаму трэба любіць Расію

Былы прэм’ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч працягвае выдаваць кнігі. Раней былі апублікаваныя ягоныя ўспаміны «Спакуса ўладай» і «Белавежскі гамбіт». Новая кніга называецца «Ці любім мы Расію?». У назве прадугледжваецца пытанне, але ўсе 500 старонак аўтар паслядоўна даводзіць, што праўдзівы, справядлівы і гістарычна дакладны адказ можа быць толькі адзін: так!

Кніга выглядае як пераказ гісторыі Беларусі з каментарамі Кебіча. Непаслядоўны, дрэнна структураваны, з тэндэнцыйным падборам фактаў і тэрміналогіяй нібыта з праграм Дзмітрыя Кісялёва.

Прыводзім захапляльныя вытрымкі з кнігі.



«Супраць Расіі і тых рэспублік, што цягнуцца да яе, разам з санкцыямі, якія закліканыя абяскровіць іх эканоміку, вядзецца масіраваная псіхалагічная апрацоўка насельніцтва ... Развал СССР і нацыялістычная вакханалія ды русафобія, якія апанавалі значную яго тэрыторыю, — вынік псіхалагічнай вайны і інфармацыйнага абалвання мільёнаў людзей».

* * *

«Карыстаючыся свабодай слова і некаторай паблажлівасцю з боку дзяржавы, беларускія нацыяналісты ўжо ў адкрытую называюць расіян не інакш як каланізатарамі».

* * *

«У выніку прапагандысцкай вакханаліі ... улады адмовіліся ад устаноўкі помнікаў Вользе і Аляксандру Неўскаму. Узамен ім і з’явіўся помнік Альгерду ... А каб яго беларускасць ні ў кога не выклікала сумневаў, узялі і злёгку падкарэктавалі імя князя — замест «Ольгерда» назвалі «Альгердом».

* * *

«Нацыяналісты тлумачаць сітуацыю вельмі проста: заняпад беларускай мовы — вынік гвалтоўнай русіфікацыі, якая праводзілася ўсе 70 гадоў савецкай улады. Пры гэтым ніякіх доказаў не прыводзіцца. У 1920-я камісары, вядома ж, праводзілі харчразвёрстку, выбіваючы з сялянаў апошні хлеб, ссылаючы іх у Сібір. Але вось каб яны з пісталетам у руках прымушалі людзей размаўляць па-руску, не магу паверыць».

* * *

«Не было гвалтоўнай русіфікацыі! Хутчэй, наадварот, рэалізуючы нацыянальную праграму, савецкая ўлада імкнулася падтрымліваць мовы карэнных народаў».

* * *

«Тэрмін «Беларусь» з’яўляецца паланізаваным варыянтам спрадвечнага наймення «Белая Русь».

* * *

«Землі, далучаныя да Расіі па жаданні народаў, якія іх насялялі, — Башкірыя, Казахстан, Грузія, Арменія, Тува, Асецыя, Украіна».

* * *

«Паўсюль і ва ўсе часы знаходзяцца псіхічна нездаровыя людзі, якія аб’яўляюць сябе напалеонамі і іншымі дыктатарамі ... Біяграфіі старшыняў Рады БНР не пакідаюць сумневаў — усе гэтыя людзі былі перакананымі антысавецчыкамі, і іх сапраўдныя мэты далёкія ад тых, што заяўляюць яны, знаходзячыся пад пратэктарам заходніх спецслужб».

* * *

«Беларускі народ ганарыцца тым, што яму давялося быць «запаведнікам сацыялізму», захавальнікам вечных маральных каштоўнасцяў. Надыдзе той дзень, я ў гэтым не сумняюся, калі да гэтай жыватворнай крыніцы прытуляцца ўсе тыя, хто, адурманены міязмамі капіталізму, паспяшаўся адрачыся ад савецкага мінулага».

* * *

«Асцерагацца прыходу «рускага свету» ў Беларусь няма ніякага рэзону. Ён даўно ўжо тут. У нашых думках. У нашых душах. У нашым ладзе жыцця».

**Ягор Марціновіч**

**Рэакцыя чытачоў nn.by**

Я ўжо забыла, чаго яго так не любілі людзі ў 90-я. Дзякуй за напамін.

**Марыся**

Чалавек свайго часу. Але той час ужо не вернецца.

**Таццяна**

# На месцы перамогі паўстанцаў Каліноўскага пад Баранавічамі паставілі яшчэ адзін мемарыяльны валун

Каля вёскі Мілавіды (цяпер Баранавіцкі раён) 3 чэрвеня 1863 года адбылася найбольшая ў час нацыянальна-вызвольнага паўстання Каліноўскага бітва інсургентаў з царскімі войскамі.

Рэгулярным расейскім часткам супрацьстаялі злучаныя сілы гарадзенскага, навагрудскага, пружанскага, ваўкавыскага і слонімскага паўстанцкіх аддзелаў на чале з Аляксандрам Лянкевічам.

Паўстанцы адбілі ўсе атакі і, такім чынам, засталіся пераможцамі. Калі назаўтра атакі карнікаў аднавіліся, іх сустрэў пусты пакінуты лагер. Пра тую перамогу нашчадкам нагадвала капліца-помнік і ўсталяваны ў 1990 г. камень з мемарыяльнай плітой.

Днямі на месцы бітвы з’явіўся новы мемарыяльны валун, на якім увекавечаныя імёны паўстанцкіх камандзіраў, а таксама змешчаны медальён з партрэтам Кастуся Каліноўскага, які напярэдадні бітвы інспектаваў лагер інсургентаў.






# Ураджэнка Беларусі стала ўпаўнаважанай па правах чалавека Расіі

Генерал-маёр міліцыі Таццяна Маскалькова абраная ўпаўнаважанай па правах чалавека Расеі.

Маскалькова нарадзілася ў 1955 годзе ў Беларусі, у Віцебску. Скончыла ў Маскве Усесаюзны юрыдычны завочны інстытут, служыла ў МУС Расеі, даслужылася да звання генерал-маёра міліцыі. Першы раз у Дзяржцуму Маскалькова спрабавала абрацца ў 1999 годзе ад «Яблыка», але няўдала. Паспяхова абралася ў 2007 годзе ад «Справядлівай Расіі».

Маскалькова вядомая рэзананснымі прапановамі, каб зрабіць законы больш жорсткімі. Так, яна прапаноўвала штрафаваць за непадпарадкаванне народным дружыннікам. Таксама генерал-маёру Маскальковай належыць прапанова перайменаваць МУС у ВЧК.



З Беларуссю Маскалькову звязвае толькі месца нараджэння. Ад 10 гадоў яе сям’я пераехала ў Маскву. Яе тата быў афіцэрам-дэсантнікам і рана памёр. Як расказвае сама Маскалькова, яна расла пад уплывам старэйшага брата.

Што датычыць новай пасады, то ўраджэнка Віцебска заявіла, што яе прыярытэтам будзе абарона правоў рускамоўных за мяжой.

**СГ**

## Навіны Германіі

### Сярэдняя пенсія ў Германіі складае 1013 еўра ў мужчын, 762 еўра — у жанчын

З сярэдзіны 2016 года ў ФРГ будуць павышаны пенсіі. На захадзе краіны — на 4,25%, на ўсходзе — на 5,95%. Цяперашняе павышэнне пенсій з’яўляецца найбуйнейшым за апошнія 23 гады.

У дадзены момант у краіне налічваецца каля 20,6 мільёна пенсіянераў.

Сярэдняя пенсія ў мужчын складае 1013 еўра, у жанчын — 762 еўра.

Цяпер пенсійны ўзрост у Германіі складае 65 гадоў. Паводле прагнозаў, у 2029 годзе ён падвысіцца да 67 гадоў.

### Вецер, які асвятляе вуліцы

Выдатная наватарская ідэя — ліхтары, якія працуюць ад энергіі ветру. На востраве Юст у хуткім часе пачнуць выкарыстоўваць аўтаномныя і экалагічныя вулічныя ліхтары. Слупы з ліхтарамі не злучаныя дратамі, затое кожны з іх мае асобны вятрак, што круціцца ад ветру і выпрацоўвае электрычнасць.

Юст размешчаны ў Паўночным моры, таму вятры тут веюць часта. Менавіта таму ўлады выспы вырашылі запусціць пілотны праект, які дазваляе эканоміць электраэнергію. Спачатку ліхтары будуць працаваць у тэставым рэжыме, але калі эксперымент пройдзе паспяхова, то ветравыя ліхтарні заменяць усе электрычныя на ўзбярэжжы.

### У Нямеччыне з’явяцца жаночыя вагоны

*Regiobahn*, недзяржаўная нямецкая чыгуначная кампанія, якая ажыццяўляе перавозкі ў федэральнай зямлі Саксонія, збіраецца ўвесці спецыяльныя вагоны для жанчын і дзяцей. Такія вагоны будуць размяшчацца адразу за лакаматывам, каб пасажыры адчувалі сябе ў бяспецы.

**СМ**

# Фізіку цяпер будуць вучыць толькі з 7-га класа, а беларуская мова будзе даганяць рускую

Новы тыпавы план для сістэмы агульнай сярэдняй адукацыі на 2016/2017 навучальны год зацверджаны пастановай Міністэрства адукацыі ад 12 красавіка 2016 года. Як адзначыла прэс-сакратар Мінадукацыі Юлія Барадун, ён прадугледжвае некаторыя новаўвядзенні.




У 2016/2017 навучальным годзе ў X—XI класах профільнае навучанне прадугледжвае вывучэнне асобных прадметаў на павышаным узроўні.

У сувязі з гэтым у тыпавым навучальным плане для вучняў XI класаў (гэтак жа, як у 2015/2016 навучальным годзе для вучняў X класаў) прадугледжана розная колькасць гадзін для вывучэння прадметаў на базавым і павышаным узроўнях.

У Беларусі праходзіць паэтапны пераход на абноўленыя навучальныя праграмы па прадметах «Беларуская мова», «Руская мова», «Руская літаратура», «Беларуская літаратура». Яны прадугледжваюць паступовае ўвядзенне аднолькавай колькасці гадзін на гэтыя навучальныя прадметы ва ўсіх школах, гімназіях, ліцэях.

У гэтай сувязі з наступнага навучальнага года будзе выдзелена роўная колькасць гадзін на вывучэнне дадзеных прадметаў у II класах.

У адпаведнасці з пунктам 2.4 абноўленай Дырэктывы №1 «Аб мерах па ўмацаванні грамадскай бяспекі і дысцыпліны», зацверджанай указам прэзідэнта Беларусі ад 12 кастрычніка 2015 года №420, паэтапна ўводзіцца прадмет «Асновы бяспекі жыццядзейнасці». У 2016/2017 навучальным годзе дадзены навучальны прадмет будзе ўведзены для навучэнцаў II і VI класаў.

З пераліку навучальных прадметаў для вучняў VI класаў выключаны вучэбны прадмет «Фізіка» (вывучэнне дадзенага прадмета будзе пачынацца з VII класа).

З 2015/2016 навучальнага года ў V класах пачата вывучэнне прадмета «Мастацтва (айчынная і сусветная мастацкая культура)». Тыпавым навучальным планам на 2016/2017 навучальны год прадугледжана далейшае вывучэнне дадзенага прадмета ў VI класе.

Абноўленай праграмай у VI класе прадугледжана 2 гадзіны на вывучэнне «Працоўнага навучання» (у 2015/2016 навучальным годзе — 1 гадзіна).

БелТА

На сэрцы

## Застацца на зямлі, дзе ёсць радыяцыя



Я хацеў напісаць тэкст пра беларусаў, якія з'язджаюць за мяжу. Але мне прывезлі курэй, і я пачаў будаваць куратнік. Шэсць беленькіх дур з інкубатара, якія ніколі не бачылі волі. Мы з Лёшам назіралі, як куры баяліся пераступіць цераз адну нешырокую дошку, прыбітую ўнізе дзвярнога праёма. За дошкай была яшчэ адна турма, але з сеткай замест сцен, там можна было дыхаць ветрам і глядзець у неба.

Куры таўкуцца ля дошкі, глядзяць на тую лепшую турму са сваёй горшай і не ідуць.

От і мы тут, на Палессі, — таксама дурныя куры. Нарабілі сабе загончыкаў і сядзім у іх. Мне не трэба ўвесь свет. Я пасадзіў восем ліп і хачу глядзець, як яны пацягнуцца ўгору. Сёння іх можна зламаць адной рукой, а праз шмат год я на якуюсьці галіну павешу арэлі для ўнукаў. Ва ўсім свеце болей няма маіх ліп.

Мне страшна думаць, што адбудзецца штосьці, што змусіць мяне кінуць і курэй, і ліпы, і ўсе планы. Што мая зямля стане не маёй.

Польскія гуралі падзяляюць людзей на тры гатункі: пні, кусты і птушкі (*pnioki*, *krzoki* і *ptoki*). Адныя не могуць пераехаць на новае месца, другія могуць, трэція пераcоўваюцца, як ім хочацца.

Я чалавек-дрэва — магу лічыць сваім толькі тое, што бачу: зямлю ад гарызонту да гарызонту і касмічны кавалак над галавой.

От і ў Нароўлі жыў пан — такі самы пень, як і я. Ён заснаваў самую старую з сённяшніх беларускіх кандытарскую фабрыку. Тады гэта была проста сямейная фабрыка, якая ўтварыла маленькі цуд — зрабіла з ягад і садавіны мармелад.

Калі ў 1919 годзе не па сваім жаданні пан з'ехаў адсюль назаўжды ў польскі маёнтак, ён заснаваў там такую самую фабрыку і ўсяляк падманваў сябе, што не пакідаў Нароўлі. Эміграцыя стала для яго самым цяжкім выпрабаваннем.

Гэта такі палескі ген — любіць сваю зямлю. Пэўна, не толькі палескі, але за палешукоў я тое кажу без сумневу.

Трыццаць год таму Чарнобыль паставіў маіх землякоў перад страшным выбарам: рызыкнуць здароўем дзяцей ці з'ехаць. У вёсцы Каранеўка ў Хойніцкім раёне, якую праславіў Мележ, сёння з усіх людзей на балоце, што біліся за любы кавалак зямлі, засталося толькі пяць чалавек. Па вёсцы страшна хадзіць. З каля трыццаці ацалелых хат толькі ў трох жывуць людзі. Кожная нежылая хата мае сваю гісторыю болю.

Участковы, які падвозіў мяне з Каранеўкі да хойніцкага гасцінца, расказваў, што за пахаванне нежылых хат перадавікам нават прэміі даюць.

Хату і чалавека, які ў ёй жыў, закапаць можна. Можна спілаваць ліпу з арэлямі. А гісторыя ўсё адно застанецца. От летась гарэў лес ля Чарнобыля, дым даходзіў і да майго Прудка. А разам з дымам — страх згубіць сваё жыццё ці сваю зямлю. І — водгукі гэтых гісторый пра згубленыя сямейныя гнёзды — разбітыя, раскрадзеныя радыяцыяй і чалавекам.

Баба Васіліна расказвае, як брат забраў яе ва Украіну. А яна пажыла там месяц ды вярнулася дадому.

– Лягу спаць, а мне сняцца лясныя сцежкі.

Дзед Сцяпан, ужо нябожчык, памятаю, нават тэорыю вывеў, што радыяцыя — гэта добра. Унь грыбы пабольшалі ў памерах — хіба то ліха? Так ён меркаваў. Ён бы вывеў трыста іншых тэорый, абы апраўдаць, што нікуды не з'ехаў пасля Чарнобыля. Што застаўся на сваёй зямлі. А праўдзівая прычына толькі адна — от тыя ліпы і арэлі на іх галінах.

Мо гэта і лёгка — пераступіць цераз дошку і з'ехаць туды, дзе няма радыяцыі. Дзе ёсць перспектывы, праца і бачна неба за алюмініевай сеткай. Але там няма маіх ліп, якія цягнуцца ўгору. Няма магіл маіх дзядоў, майго бацькі.

Не, я не хачу пераступаць цераз вузкую дошку ў дзвярным праёме, каб глядзець на неба скрозь алюмініевую сетку. Я хачу застацца на гэтай зямлі, дзе ёсць радыяцыя. Гэта зямля — мая.

**Андрусь Горват, belsat.eu**
**Прудок (Калінкавіцкі раён)**

## У Дзмітрыя Калдуна нарадзілася дачка Аліса



Спявак 25 красавіка напісаў у сацсетках пра тое, што ў яго нарадзілася дачка. Яе вырашылі назваць Алісай. Рост у малой 51 см, а вага — 3200 грамаў.

Сам Дзмітрый Калдун цяпер на здымках у Маскве, а яго жонка Віка — у радзільным доме ў Мінску. Але Дзіма абяцаў, што да выпіскі іх з радзільні ён абавязкова прыедзе.

У Калдуна ўжо ёсць сын Ян, які нарадзіўся 20 студзеня 2013.

Kp.by

## У Нідэрландах з 2025 года забароняць прадаваць аўтамабілі на бензіне і дызелі

У Нідэрландах ніжняя палата парламента ўхваліла законапраект аб забароне продажу аўтамабіляў з рухавікамі, якія працуюць на бензіне і дызельным паліве, з 2025 года, перадае *The Guardian*.

Для ўступлення ў сілу праект павінен быць ухвалены ў сенаце, куды ён неўзабаве паступіць на разгляд.

Прыняцце законапраекта адбылося пасля ўдакладнення, што гаворка ідзе не пра ўсе аўтамабілі, уключаючы ўжо набытыя, а толькі пра новыя машыны.

У экалагічных мэтах краіна хоча перавесці аўтапарк на электрычнасць.

## Дзяўчынка будзе і ў Домрачавай

Дар'я Домрачава і Уле-Эйнар Б'ёрндален абвясцілі пра тое, што ў іх народзіцца дзіця. У канцы верасня — пачатку кастрычніка Дар'я павінна нарадзіць дзяўчынку.

## Памёр былы трэнер жаночай зборнай Беларусі па біятлоне Клаўс Зіберт

Яму было 60 гадоў. Сярод найбольш вядомых вучняў Клаўса Зіберта — трохразовая алімпійская чэмпіёнка, двухразовая чэмпіёнка свету Дар'я Домрачава, бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў 2014 года, шматразовы прызёр Кубка свету па біятлоне Надзея Скардзіна.

На сваёй старонцы Укантакце Скардзіна напісала: «Ён быў нашым суперменам (часам мы так яго называлі). Ён быў нам і трэнерам, і псіхолагам, і настаўнікам, і сябрам! Можна нават сказаць, што для мяне ён быў біятлонны тата... Наша каманда была біятлоннай сям'ёй! Гэта заўсёды застанецца ў нашых з дзяўчатамі сэрцах!».

## У кітайскім будыйскім храме з'явіўся робат-манах

Робат быў прэзентаваны публіцы ў Пекіне яшчэ ў кастрычніку 2015 года, аднак трапіў у поле зроку буйных СМІ толькі цяпер. Манах па імені Сіянь-ар быў створаны ў 2013 годзе як мультыплікацыйны персанаж, а праз два гады быў рэалізаваны ў выглядзе 60-сантыметровага робата. Сіянь-ар можа самастойна перасоўвацца, спяваць мантры і адказваць на некалькі дзясяткаў простых пытанняў наведвальнікаў храма Лунцюань («Крыніца цмока») аб жыцці і будызме.

«Робат дэманструе, што будызм і сучасныя тэхналогіі не павінны супрацьпастаўляцца, наадварот, яны могуць узаемавыгадна дапаўняць адзін аднаго», — тлумачаць стваральнікі Сіяньара. Па словах распрацоўшчыкаў, яны ўжо працуюць над палепшанай версіяй робата-манаха з пашыранай функцыянальнасцю.



**Ад 21 да 23 красавіка ў Нацыянальнай школе прыгажосці прайшоў Мінскі фестываль-конкурс беларускай моды і мастацтва «Этна-стыль». На ім прэзентавалі дызайнерскія рэчы з нацыянальным каларытам. Былі паказаныя 16 калекцый моднай адзежы. На фота: з калекцыі Настассі Фальковіч «Ракаўскі куфэрак».**




# «Калгас!» або «Пацанская тачыла!»

Аб’ява аб продажы аўто з нацыянальным арнаментам выклікала ажыятаж.

Мінчук выставіў на продаж машыну, упрыгожаную нацыянальным арнаментам. Аб’ява выклікала вялікую цікавасць, праўда, не столькі аўтааматараў, колькі «мастацкіх крытыкаў».

«Калгас!», «Яшчэ б бюст Бацькі на дах прыляпіў», «З-за аграўзору ніхто не купіць», «Калі ехаць на такой машыне і чытаць у дарозе ўслых вершы Багдановіча, то яна паедзе на 10 км/г хутчэй» — некаторыя здзекуюцца на ўсе лады.

Але абсалютная большасць падтрымала ўладальніка машыны. «За арнамент залік! Поспехаў у продажы», «Вышыванка — супер!», «Налепка вельмі прыгожа глядзіцца», «Цудоўны! Была б у мяне жонка — набыў бы ёй гэты аўтосік!». Былі нават такія каментары: «Пацанская тачыла, я б купіў толькі з-за арнаменту, кенту поспеху ў продажы!».

«Я нанёс арнамент, бо гэта і прыгожа, і патрыятычна, — кажа ўладальнік аўто Хведар. — Я ўвогуле люблю нашы нацыянальныя ўзоры, і сам працую, вырабляючы рэчы з арнаментам. Можа, бачылі вокладкі «пашпарт беларуса» ці «пашпарт беларусачкі»? Дык вось, гэта маё, мой праект *vokladki.by*.

Насамрэч, калі я клеіў той арнамент — а гэта было больш за год таму, — думаў, што падобных машынаў будзе шмат, бо быў такі ўздым гэтай тэмы, усе цікавіліся арнаментам, вышымайкамі. Аднак за гэты час я бачыў толькі 4—5 аўто з падобнымі налепкамі».

Але, кажа Хведар, на дарозе яго ўпрыгожаны «Опель» выклікае выключна рэспекты.

«За ўвесь час мне ніхто не сказаў аніводнага кепскага слова, — смяецца Хведар. — А вось сігналілі ці казалі, што крута, — такое бывала».

Праўда, на сваю новую машыну ён арнамент наносіць не будзе. Прычына простая: колер не той, не глядзіцца.

«Я браў аўто з салона, набыў цёмна-шэрую, а на ёй ані белы, ані чырвоны ўзор добра не выглядае. Але спадзяюся, што гэта не апошняя мая машына — можа, наступную вазьму белую, і тады ўжо упрыгожу яе нацыянальным узорам», — кажа Хведар.

**Улад Швядовіч**

# У Латвіі агрэсіўны бабёр узяў у палон мужчыну

У сярэдзіне красавіка ў Даўгаўпілсе бабёр напаў на чалавека. Тое, што адбылося ў той дзень, нагадвае жудасны трылер.

13 красавіка прыкладна а гадзіне ночы Сяргей вяртаўся дадому пасля сустрэчы з сябрамі. Раптам ён убачыў, як проста на яго бяжыць бабёр.

Мужчына паспрабаваў адпудзіць яго, але «кыш-кыш» звера не спыніла, і ён ўчапіўся Сяргею ў левую нагу. Сяргей адкінуў бабра і паспрабаваў яго ўдарыць. Бабёр не здаваўся і змог паваліць мужчыну на зямлю. Пасля гэтага жывёла не стала дабіваць чалавека, а ўзяла яго ў палон.

Пакуль Сяргей ляжаў на зямлі, бабёр яго не чапаў і проста сядзеў побач, але ўгрызаўся ў нагу кожны раз, калі мужчына спрабаваў падняцца.

Лежачы на зямлі, Сяргей патэлефанаваў у службу выратавання, але там не паверылі ў гісторыю з нападам бабра і паклалі слухаўку.

Тады мужчына датэлефанаваўся да свайго сябра — той спачатку не паверыў у яго аповед, але пагадзіўся прыехаць. Па дарозе яго спыніла паліцыя. Калі ён распавёў, што імчыцца ратаваць таварыша ад бабра, паліцэйскія папрасілі яго падзьмуць у трубачку.

Пераканаўшыся, што сябра Сяргея цвярозы, паліцыянты паехалі разам з ім і выратавалі чалавека, выклікаўшы хуткую. Мужчыну зашылі рану і прызначылі курс уколаў, наступаць на левую нагу ён пакуль не можа.

У службе выратавання заявілі, што званка ад Сяргея не паступала. Па словах прадстаўніка пажарна-выратавальнай службы, зафіксаванае толькі тэлефанаванне ад паліцэйскіх. Пасля гэтага на месца здарэння выехалі ратавальнікі, знайшлі бабра і выпусцілі яго ў нейкі вадаём.

Дырэктар Латгальскага заасада, біёлаг Міхаіл Пупіньш папярэдзіў: бабры — не такія мілыя, як здаюцца. Гэта звяры вагой да 40 кілаграмаў з вострымі зубамі, якія не любяць, калі іх чапаюць або на іх шляху апынаецца перашкода.

Па словах Пупіньша, пры сустрэчы з бабром трэба ўцякаць: «Бабёр досыць хутка бегае, але на доўгай дыстанцыі вашыя шанцы ўзрастаюць. Прычым уцякаць лепш кружляючы, спрабуючы заблытаць яго і схавацца з вачэй. Ускараскацца на дрэва — таксама добры варыянт. Бабёр не есць людзей. Яго ежа — дрэвы. Так што ў яго не спрацуе ў галаве сцэнар «перагрызці ствол дрэва, на якім сядзіць чалавек, каб здабыць чалавека».

**meduza.io**



# У Расіі чарговы «распяты хлопчык»: «бас-гітарыста «Любэ» забілі за размовы пра Данбас»

Расійскія СМІ працягваюць множыць фэйкі, якія маюць на мэце падтрыманне варожасці да ўкраінцаў, а таксама працаўнікаў Пуціна ў Расіі. Чарговай нагодай для гэтага стала смерць бас-гітарыста гурту «Любэ», што спявае музыку блатнога толку. Пуцін калісьці называў «Любэ» сваім любімым гуртом.

Версію запусціў адыёзны пісьменнік Захар Прылепін. Яе падхапіла афіцыйная прадстаўніца МЗС Расіі Марыя Захарава. Захар Прылепін напісаў у сваім блогу на сайце РЕН ТВ: «Паша сядзеў у бары, абмяркоўваў якраз тыя самыя тэмы, што і мы з ім абмяркоўвалі, — Данбас».

Паводле яго слоў, аднаму з прысутных ва ўстанове гутарка не спадабалася. «Да Пашы падышлі і ўдарылі па галаве. Ззаду. Тварам да твару з ім забойца меў куды менш шанцаў. Паша мог за сябе пастаяць. Вынік: пералом асновы чэрапа і ўнутрымазгавая гематома», — адзначыў пісьменнік.

Хоць Прылепін сам не прысутнічаў у рэстаране, дзе адбыўся канфлікт, і ягоныя словы — толькі гіпотэза, іх пракаментавала афіцыйная прадстаўніца МЗС Расіі Марыя Захарава. «Правы чалавека ім падавай, каштоўнасці еўрапейскія, павагу. Не будзе вам ні каштоўнасцяў, ні павагі, пакуль не перастанеце людзей страляць на Майдане, паліць у дамах прафсаюзаў і забіваць у барах па нацыянальна-ідэалагічнай прыкмеце. Спачатку інтэнсіўная рэабілітацыя ад нацыяналізму, потым усё астатняе. Інакш — клінічная смерць ад атручвання самімі сабой», — напісала яна на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Бас-гітарыст «Любэ» Павел Усанаў быў збіты 2 красавіка. 19 красавіка ён памёр у адной з маскоўскіх бальніц. 3 красавіка ў Падмаскоўі затрымалі падазраванага ў нападзе на Усанава. Гэта 39-гадовы жыхар Сонечнагорскага раёна Маскоўскай вобласці. Супраць яго заведзеная крымінальная справа па частцы 1 артыкула 111 КК РФ («Наўмыснае прычыненне цяжкай шкоды здароўю»). Усанаў у 2014 годзе выступаў на акупаваных тэрыторыях Украіны.

Затрыманы за бойку з Усанавым мужчына сцвярджае, што бас-гітарыст «Любэ» сам на яго напаў, а ён толькі абараняўся. У рэстаран Усанаў прыйшоў адзначаць дзень нараджэння сына свайго сябра.

**Сяргей Гезгала**

# Год быў грыпозны, затое адзёр знік

Белстат апублікаваў звесткі аб колькасці выпадкаў хвароб за год.

Сітуацыя з інфекцыйнымі і паразітарнымі хваробамі змяняецца ў залежнасці ад таго, ці назіралася эпідэмія.

Напрыклад, летась было зарэгістравана шмат выпадкаў грыпу.

А вось з адзёрам сітуацыя адваротная: колькасць захворванняў скарацілася з 64 да 2.

Застаюцца пераможанымі слупняк і дыфтэрыя (ніводнага выпадку за апошнія гады), а таксама краснуха (адзін выпадак захворвання).

**БЮ**

# Джэніфер Эністан назвалі самай прыгожай жанчынай свету



Першай прыгажуняй яе назваў часопіс *People*. Эністан паспела прызнацца журналістам, што такі значны тытул стаў для яе поўнай нечаканасцю. Актрыса прызналася, што навіна выклікала ў яе падлеткавае захапленне.

Падчас размовы з прадстаўнікамі часопіса 47-гадовая Эністан падзялілася з чытачамі сваім бачаннем сапраўднай прыгажосці. На думку актрысы, прыгажосць — гэта мір, дабрыня, упэўненасць у сабе і годна пражытае жыццё. Таксама знакамітасць дадала, што лічыць прыгожым не саромецца і не папракаць сябе, калі ў жыцці нешта пайшло не па вызначаным плане.

# Жахі адной ночы на мытні «Каменны Лог»

Як наша чытачка Ядвіга Іконнікава **везла з Літвы чатыры пакрышкі.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Гэта не ліст у рэдакцыю, не скарга, на якую чакаюць адказу ад кампетэнтных устаноў. Гэта апавяданне, ганарар за якое прашу пералічыць у прэміяльны фонд мытні на беларуска-літоўскай мяжы «Каменны Лог».

Я абсалютна не ведаю, што робіцца цяпер на мытні ў Брэсце, на ўкраінска-беларускай мяжы, але чула, што казалі людзі: беларускія мытнікі вычышчаюць усё так, што ўкраінцам ужо няма там чаго рабіць.

Вось маем славу дык маем! А хіба нашы мытні не ёсць тварам дзяржавы?! Таму я мяркую, калі пра тое, што робіцца на нашых мытнях, ведаюць нейкія тысячы беларусаў, то чаму б не ведаць астатнім мільёнам? І чаго мне так баяцца — жанчыне пенсійнага ўзросту з 32-гадовым хірургічным стажам? Ці я не прывыкла за жыццё самастойна прымаць рашэнні? А калі ўлічыць, што самае страшнае перажыла, бацькоў пахавала, то і казаць няма чаго.

Мела я і належнае выхаванне: матчына маці, якая паходзіла са збяднелай шляхетнай сям'і, была двойчы ўдава і адна змагла даць чатыром дзецям вышэйшую адукацыю, даводзіла мне: «Ніколі нікога не бойся!»

У 1966 годзе бацька завёў мяне за ручку ў першы клас нямецкай спецшколы, і мову я вывучыла. А праз гэта ведаю яшчэ былую савецкую мытню ў Брэсце: нас, школьнікаў, пасылалі неаднаразова на практыку ў Патсдам. Тады на мытні было прыстойна, а цяпер? А цяпер самае цікавае...

Маёй свекрыві 92 гады, яна кепска ходзіць, разам з мужам мы даглядаем яе. А тут неспадзяванка — сапсавалася колавая гума на аўто: уся парэпалася, збоку вылез нейкі гуз, ездзіць стала небяспечна.

Я збіралася ў Вільню, адведаць сям'ю роднага матчынага брата і, карыстаючыся магчымасцю, прывезці патрэбную гуму. Муж застаўся у Мінску з маці. Паехала я са знаёмым на офісным аўтамабілі з усімі адпаведнымі паперамі.

У Вільні ўсё было цудоўна: хутка набылі тую гуму і рушылі назад. А 15 гадзіне 5 красавіка прыехалі ў «Каменны Лог», сталі ў «чырвоны калідор», запоўнілі дэкларацыю. Перад намі было чатыры машыны. У чарзе злева, у «зялёным калідоры», і за намі — аўтамабілі з расійскімі, польскімі, літоўскімі нумарамі. Чарга не рухалася. Паміж гэтымі калідорамі снаўдалася шмат нейкіх каржакаватых не надта паглядных хлопцаў у амаль аднолькавых скураных куртках. Запусцілі першыя чатыры машыны за шлагбаум, паміж імі пачаў скакаць адзіны мытнік. Потым проста на асфальце паслалі каравую капу, на якую пачалі вытрасаць усё змесціва аўтамабіля з нямецкімі транзітнымі нумарамі. Не грэбавалі нават рулонамі туалетнай паперы. Гаспадары іншамаркі па чарзе лёталі гэта ўсё ўзважваць.

Спектакль цягнуўся доўга, «чырвоная чарга» не рухалася, за намі вырас «хвост». Назіраў за спектаклем увесь калейдаскоп машын Еўрасаюза. Потым аўтамабіль адцягнулі ўбок, атачылі пярэдняе кола нечым накшталт бараны з вострымі зубамі, замкнулі на замок. А каб не змаглі збегчы з прапоратым колам — ззаду замкнулі яшчэ адно прыстасаванне. Такі самы лёс напаткаў дзяўчат з гродзенскімі нумарамі, у якіх мытнік выварочваў дамскія сумачкі і якія таксама бегалі нешта ўзважваць. Такім жа чынам запынілі мікрааўтобус. Дайшла чарга да нас...

Той самы ўзмакрэлы мытнік перш-наперш узважыў кола, якое пацягнула на 10 кг. Склалася ўражанне, што калі б яно важыла болей (везці аднаму чалавеку дазволена 50 кг), то машына паедзе на трох колах. Потым аказалася, што нашы колы нельга рэгістраваць на аўтамабіль, на якім мы едзем, бо ён належыць установе, а не фізічнай асобе.

Я звязалася з мужам, каб ён прывёз дакументы на нашу машыну. Муж папрасіў добрага знаёмага, каб дапамог у гэтым пытанні, паехаў з ім сам, пакінуўшы старую маці. Аўтамабіль, на якім мы ехалі з Вільні, таксама адцягнулі ўбок і атачылі «бараною». За той час, што мы там стаялі, давялося пачуць проста неверагодныя рэчы, не буду іх пераказваць.

Надыходзіла так званая «перазменка», дакументы яшчэ не падвезлі. Нас адамкнулі і зноў накіравалі ў хвост чырвонага калідора, дзе было шмат аўтамабіляў. Чарга амаль не рухалася.

Тыя ў скуранках назіралі, зноў адзіны, ужо новы, мытнік кідаўся ў шахматным парадку ад аўто да аўто. Мы нанова прайшлі пашпартны кантроль і нарэшце трапілі паміж шлагбаумамі. Муж прывёз усе паперы, у тым ліку генеральную даверанасць на маё імя. Раздражнёны злы мытнік счапіўся з маім напарнікам, адмовіў у маім праве везці колы ў Мінск, бо машына зарэгістравана на імя мужа. Мой суправаджаючы пайшоў шукаць начальніка змены. Знаёмы, што прывёз мужа, вярнуўся ў Мінск на працу. Муж, спадзеючыся, што зараз мы выедзем, чакаў за шлагбаумам на ўездзе ў «Каменны Лог». Ад начальніка суправаджаючы прыйшоў абсалютна разгублены і сказаў, што нам трэба вяртацца ў Літву і вярнуць гуму. Такая начальніцкая прапазіцыя ніяк не магла мяне задаволіць. Прыйшлося самой з паперамі, пашпартам і даверанасцю паўзці на трэці паверх у 18-ы кабінет.

Там сядзела трое: начальнік, яшчэ не стары маёр вагою не менш як 150 кг, які нават не прапанаваў мне сесці; яшчэ адзін мытнік сталага веку і маладая прывабная жанчына ў такой самай скураной куртцы. Жанчына корпалася ў паперах.

З галаўным болем давялося слухаць спецыфічную трасянку наконт «незнаніе законов не спасает от ответственності», «генеральная доверенность вас не спасёт», «супруга не является владеліцей машіны». Дазвольце, а ў якім нашым тэхпашпарце вы бачылі, што набыты аўтамабіль рэгіструюць адначасова на прозвішчы мужа і жонкі?

Прывабная пачала пад'ялдыківаць: «Вы кем работаете?» Адказваю, што маю спецыяльнасць хірургічнага кірунку. Яна зноў: «Вы же операцію делаете по стандарту?» Дзе вы бачылі аднолькавы стандарт у чалавечым арганізме? Кожны раз уласная анатомія. Што гаварыць...

Начальнік вырашыць пытанне не хоча, спасылаючыся на нейкія дадатковыя інструкцыі. «Едзь у Літву!» — гучыць, як загад. А што мне там рабіць? На пытанне, хто ёсць над ім, не адказвае. Ну што ж. І ўсё-такі даведваюся, што вышэй за яго стаіць таварыш Сафронаў. Начальнік, лічачы, што ён дасканала валодае рускай, на сваёй трасянцы прапануе растлумачыць мне тое, што ён гаворыць па-беларуску. Пераходжу на беларускую, ён дзіўна глядзіць на мяне і змаўкае.

Іду да аўтамабіля. Перада мною вырастае галоўны правяраючы ў скураной куртцы і звяртаецца па-беларуску. Ужо патэлефанаваў начальнік. Правяраючага цікавіць, хто я ёсць насамрэч. Дапытвае прафесійна. Раптам ледзь не бяжыць таварыш Сафронаў. Прашу яго па-добраму, тлумачу, што сітуацыя сапраўды нестандартная, але патрэбныя паперы на руках, а гаспадар чакае за шлагбаумам. Спрабую давесці, што дырэктары, галоўныя дактары, начальнікі для таго, каб браць на сябе адказнасць у нестандартнай сітуацыі, з якой ёсць выйсце. Я магу напісаць заяву. У рэшце рэшт заплачу ў касу штраф за неналежнае выкананне нейкага пункта.

Каля нас круціцца малады мытнік, спрабуючы ўратаваць ад мяне таварыша Сафронава. Прашу яго нам не перашкаджаць, бо таварыш Сафронаў сапраўды можа рашыць. Ад маладога атрымліваю адказ, што ён таксама начальнік. Дзякуй Богу!

Прозвішчы гэтых дзейных асоб не магу паведаміць, бо ноччу складана было прачытаць. Ні адзін начальнік, ні другі, ні малады, баючыся правяраючага, не ўзялі адказнасць за вырашэнне пытання.

Таварыш Сафронаў прапануе ехаць у Літву. А трэцяй гадзіне ночы! Таварыш Сафронаў цешыць мяне тым, што толькі што адаслаў ці то ў Літву, ці то ў Польшчу старога дзеда, які на аўтамабілі, што зарэгістраваны на жонку, хацеў правезці два колы. Як вы лічыце, з чатырох колаў аўтамабіля колькі належыць мужу, а колькі жонцы?

У адну з паездак у Вільню ў памяшканні, дзе нас даглядалі на літоўскім баку, на падлозе ляжаў сабака з разумнымі вачыма. Аўчарка. Той сваю справу ведае: унюхае наркотык — перад табою вораг, а калі не — то вязі ты ўсё, што табе трэба. А замест гэтых начальнікаў прапаную пасадзіць аднаго робата і зарплату не плаціць. Запраграмаваць яго — і хай бубніць сабе параграфы. А дзяржава пабагацее.

Безумоўна, пэўная ступень віны за мною ёсць, але ж і мытнікі трымалі наш аўтамабіль 12 гадзін.

Чым скончылася?

Стомленасць страшэнная, з сямі раніцы на нагах. Шкада часу. Яшчэ раз тэлефаную мужу. Уся хеўра правяраючых услухоўваецца, з кім гэта я гавару. Недалёка стаіць кіеўскі аўтобус. Іду да кіроўцаў папрасіць, каб узялі да Мінска мужа. Яны стаяць, разгубленыя, баяцца, бо на сорак з нечым пасажыраў маюць чатыры лішнія бутэлькі віна. Эх, мытнікі, мытнікі! Хай бы адзін з вас зайшоў у аўтобус і прапанаваў: «У маёй прысутнасці выпіць гэта ўсім разам, ды і каціце далей». Не, дзе там! Увесь персанал мытні мае дакументальныя твары. Згадзіўся ўзяць майго мужа кіроўца невялікага аўто. Не паведамляю нумар, а то прычэпяцца да добрага чалавека.

Я і знаёмы, як кажуць на Наваградчыне, з усім чэкерам накіроўваемся ў Еўрасаюз. Зноў праходзім пашпартны кантроль на тым баку. Бачу здзіўленыя вочы літоўскай памежніцы.

З'яўляецца ветлівы, малады, выкшталцоны мытнік Еўрасаюза ў прыгожай форме. Калі чуе, што жанчына вязе немаведама куды чатыры гумавыя шыны, то непадробна здзіўляецца: «Как это? Глубокой ночью своіх отправілі в чужую страну?!» Ён раіць трохі ад'ехаць ад мяжы і схаваць гуму ў прыдарожных кустах. Вы ўяўляеце карціну: поўзаць у цемры, як злодзей, і нешта хаваць. Ноччу нічога не відаць, а днём нехта ўбачыць. Вяртацца ў Вільню і падымаць вэрхал у родзічаў не выпадае.

Але ж і свет не без добрых людзей... Запынілі літоўскі аўтамабіль, які ехаў за намі, хацелі папытацца, куды нам падацца. Простыя людзі прапанавалі пакінуць гуму на некалькі дзён у іх, далі свой тэлефон, растлумачылі, дзе забраць.

Я ведаю, калі на «Каменным Логе» гэта прачытаюць, то будуць смяяцца. Начальства будзе гладзіць сваіх службоўцаў па галоўцы за тое, што праявілі пільнасць.

А як жа быць з генеральнай даверанасцю, дзе па-руску напісана, што «я, жонка, маю права валодаць, карыстацца (кіраваць) аўтамабілем, даглядаць яго, рабіць неабходны рамонт (чытай: везці гуму), распісвацца за мужа» і здзяйсняць фармальнасці, з гэтым звязаныя. Так што трэба вашым юрыстам удакладніць патрэбныя пункты і дапрацаваць належным чынам гэтыя правілы. А на сёння: «Таможеннікі правы по умолчанію». Кропка.

Гэта апавяданне для ўсіх беларусаў. Вельмі ўважліва чытайце тое, што яны выклалі на сайт, асабліва сачыце за дадатковымі інструкцыямі. Што ж тычыцца атмасферы мытні, то, па-першае, адзін-адзіны мытнік таксама не можа ўважліва ацаніць нейкую канкрэтную сітуацыю, асабліва калі наляцела армія правяраючых. Усе трымаюцца за сваё месца. Таварыша Сафронава, напрыклад, вельмі цікавіла, адкуль я даведалася яго імя. Не сказала і не скажу. Прыкра ад знявагі і вельмі непрыемна, сорамна за іх паводзіны. Нехта ж зверху кіруе гэтым спектаклем, ствараючы жахлівае аблічча Беларусі. Толькі і чуем пра гасціннасць Беларусі — «страна гостепріімства». А дзе ж гасціннасць была ў ноч з 5-га на 6-га красавіка?

Па-жаночы хачу даць параду кабетам і дзяўчатам: калі ў вас праблемы з вагою, не дапамагаюць сучасныя дыеты, спа-салоны, то купіце чатыры гумавыя шыны на свой аўтамабіль (павінен быць зарэгістраваны на мужа, якога пакіньце з хворай маці) — і за адну ноч станеце як таполя, знікнуць нават хрушчоўскія тлушчавыя накапленні. Мае перажыванні для мытнікаў як слёзы купрынаўскай Хіўры, «у которой выпустілі пух із подушек». Лічу, што ўсю іх змену трэба ўзнагародзіць медалём з грашовай дапамогай. Гэткая звышпільнасць усіх разам!

Той першы начальнік, што ўтаропіўся ў камп'ютар, не разумее, што жанчыне трэба прапанаваць прысесці, няважна дзе, а на дзяржаўнай мяжы трэба быць проста бездакорным. Мне, як спецыялісту, відаць, што ён мае ўжо прэдыябет з наступнымі вынікамі. Ва ўсіх дзейных асоб проста ваўчыныя вочы.

Хачу прапанаваць старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта і тым, хто адказвае за выхаваўчую работу, абавязкова запланаваць для вывучэння ўспаміны Сяргея Грахоўскага і Яна Скрыгана, якія адседзелі ні за што з 1936 па 1953—1954 гг., раман «У падзямеллі» Міколы Аўрамчыка, які зноў надрукаваны ў серыі «Беларускі кнігазбор». Гэты раман аб тым, як аўтар у 22 гады трапіў у нямецкі палон, у шахты, і як просты немец-шахцёр, рызыкуючы жыццём, падкармліваў маладога беларускага хлопца з Бабруйшчыны. Мікола Якаўлевіч жывы і сёння. Яму споўнілася 96 гадоў.

Нялішнім будзе пачытаць творы Лукаша Калюгі, ураджэнца цяперашняй Дзяржыншчыны, адчуць мову, мараль, этыку, добры дух беларускай нацыі. Ва ўзросце 28 гадоў ён загінуў у НКВД і быў амаль адзіным, хто нічога не падпісаў і нікога не выдаў.

Яшчэ не позна. Тады не будзе гэтых брыдкіх брудных прасцірадлаў на асфальце, гэтага здзеку і адсутнасці культуры.

За савецкім часам, калі трэба было каго-небудзь агледзець на мытні, існавала спецыяльнае памяшканне. За жывыя душы начной змены ў ноч з 5-га на 6-га красавіка я пастаўлю свечкі ў царкве і закажу імшу ў касцёле. Павагі ва ўсёй гэтай сумнай гісторыі варты толькі той разумны сабака.

# Работніца банка з Ваўкавыска напазычала ў сваякоў грошай на 2 мільярды і з'ехала ў Маскву

Ваўкавыскім раённым аддзелам Следчага камітэта распачата крымінальная справа ў дачыненні да жыхаркі Ваўкавыска Валянціны Якаўлеўны Харытонік, 1961 года нараджэння, бухгалтара разліковакасавага цэнтра адной з банкаўскіх устаноў горада. Яна падазраецца ў здзяйсненні ашуканскіх дзеянняў у асабліва буйным памеры.

З заявамі аб здзяйсненні злачынства ў міліцыю звярнуліся сямёра жыхароў Ваўкавыска, якія з'яўляюцца сваякамі і сябрамі Харытонік.

Яны сказалі, што з 2012 па сакавік 2016 года жанчына пазычала ў іх грошы. Агулам Харытонік набрала больш за 2 мільярды 200 мільёнаў рублёў. Сваім «крэдыторам» жанчына абяцала вярнуць грошы з працэнтамі, абгрунтоўваючы надзейнасць сваёй пасадай у банку.

Аднак 27 сакавіка падчас свайго адпачынку Валянціна Харытонік выехала ў Маскву разам з мужам і дачкой.

Пры гэтым яна вывезла з хаты большасць рэчаў, а сваякам пакінула ліст, у якім паведаміла пра тое, што вяртаць ім грошы яна не збіраецца.

У ходзе расследавання крымінальнай справы следчыя наклалі арышт на дом, зямельны надзел і выяўленую падчасператрусу маёмасць падазраванай. Аб выпадку праінфармавана банкаўская ўстанова, у якой працавала Валянціна Харытонік. Паводле папярэдняй інфармацыі, з боку працадаўцы прэтэнзій матэрыяльнага плана да бухгалтара няма. Канчаткова гэтае пытанне будзе высветлена падчас далейшага расследавання крымінальнай справы.



Сумесна з супрацоўнікамі міліцыі праводзіцца работа, накіраваная на высвятленне дакладнага месцазнаходжання жанчыны. Акрамя таго, вядзецца пошук іншых грамадзян, якія маглі пацярпець ад дзеянняў Харытонік. Звяртацца па гэтым пытанні, а таксама аказаць дапамогу ў расследаванні можна па тэлефонах: (8-01512) 7-51-69 або 102.

**УШ**

## Заляцаўся ў лазні не да той: мінчук праткнуў вока гарадзенцу більярдным кіем

За прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання прыйдзецца адказаць маладому чалавеку 1988-га года нараджэння, які прыехаў у Гродна да прыяцеля, які ў выніку і пацярпеў.

З нагоды сустрэчы гасцінны гаспадар арганізаваў таварышу лазню, запрасіўшы туды сваю сужыцельку і яе сяброўку. Папарыліся, выпілі, і ў нейкі момант нецвярозы мінчанін праявіў цікавасць не да сваёй дзяўчыны, што і абурыла яе кавалера. Апошні заступіўся за гонар прадстаўніцы супрацьлеглага полу, за што і паплаціўся здароўем. У ходзе сваркі яго апанент схапіў у рукі са стала більярдны кій і пастаўленым ударам трапіў акурат прыяцелю ў вока. Пацярпелы разам з сяброўкай тут жа пакінулі лазню, але мужчына адразу да лекара не звярнуўся. З раніцы хуткую дапамогу выклікала маці пацярпелага, якая вырашыла, што справа сур'ёзная. Як аказалася, ад удару невялікая частка косткі адкалолася і прайшла праз увесь мозг, спыніўшыся ў процілеглым канцы чэрапа.

Пацярпелы доўга не хацеў прызнавацца аб механізме атрыманай траўмы, пакуль да справы не падключыліся аператыўнікі крымінальнага вышуку. Падазраванага затрымалі калегі з Мінска пры дапамозе спецназа. Супрацьву малады чалавек не аказаў.

## Мыла, шкарпэткі, забойства

У Ваўкавыску браты рассварыліся праз няслушны выбар мыла — спрэчка скончылася забойствам.

У Ваўкавыску два раней судзімыя браты, 1978 і 1981 гадоў нараджэння, пасварыліся. Старэйшы брат меркаваў, што малодшы мыў шкарпэткі не тым мылам, што трэба. Сварка часова прыпынілася.

Аднак старэйшы брат вырашыў працягнуць канфлікт і прыйшоў услед за малодшым на кухню. У выніку ён атрымаў два ўдары нажом у грудную клетку злева. Раненні аказаліся несумяшчальныя з жыццём.

У дачыненні да малодшага брата заведзеная крымінальная справа па артыкуле «Забойства». Ён затрыманы.

## Дык усё-такі ўчастковыя згвалтавалі дзяўчыну?

Такі факт, як групавое згвалтаванне дзяўчыны ў Магілёве, «меў месца», паведаміў, адказваючы на пытанні журналістаў 21 красавіка ў палацы прадстаўнікоў, міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч.

Паводле яго слоў, цяпер расследуецца справа ў дачыненні да «былых супрацоўнікаў органаў унутраных спраў».

«На момант злачынства гэтыя людзі былі супрацоўнікамі міліцыі?» — запыталіся журналісты.

Пасля непрацяглай паўзы міністр паўтарыў: «Былымі супрацоўнікамі органаў унутраных спраў».

Па словах Шуневіча, яны «затрыманыя, арыштаваныя, іх дзеянням будзе дадзена ацэнка».

Як раней паведамілі некалькі крыніц у праваахоўных органах, абвінавачаныя ў згвалтаванні былі звольненыя з міліцыі ў перыяд паміж учыненнем злачынства і завядзеннем у дачыненні да іх крымінальнай справы. Па некаторых звестках, іх звольнілі ў дзень затрымання — і справа, як паведамілі СК, сапраўды распачыналася ўжо ў дачыненні да «беспрацоўных грамадзян».

Як паведамлялі мясцовыя СМІ, трое ўчастковых інспектараў, «якія былі на службе ў Ленінскім РАУС», і адзін былы супрацоўнік дэпартамента выканання пакаранняў згвалтавалі дзяўчыну. Па словах карэспандэнта, адзін з іх у цывільным адзенні ў начным клубе пазнаёміўся з дзяўчынай і запрасіў яе ў кватэру, дзе чакалі сябры. Дзяўчыну яшчэ падпаілі, і, як пісала газета «Вечерній Могілев», «скарысталіся яе безабаронным станам». Адзін з удзельнікаў нібыта нават яе біў.

Інцыдэнт адбыўся ў ноч з пятніцы на суботу 26—27 лютага. Затрыманыя зламыснікі былі 29 лютага.

**news.tut.by**

## Супрацоўніца банка ў Віцебску выдала каханку крэдыт на мільён даляраў — і засталася на волі

Жанчына дапамагла дырэктару камерцыйнай структуры, з якім была ў блізкіх адносінах, атрымаць буйны крэдыт, загадзя падначаленым схаваць негатыўную інфармацыю аб плацежаздольнасці яго фірмы.

Пасля заключэння дамовы, яна, валодаючы негатыўнай інфармацыяй пра фінансавы стан прадпрыемства, таксама схавала гэта і ад крэдытнага камітэта банка, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

У выніку такіх дзеянняў банку была нанесена шкода на суму, эквівалентную 925 400 даляраў ЗША.

Судом Кастрычніцкага раёна Віцебска жанчына была прызнаная вінаватай у злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі і асуджаная да пазбаўлення волі тэрмінам на чатыры гады без канфіскацыі маёмасці з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады, з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з арганізацыйна-распарадчымі і адміністрацыйна-гаспадарчымі абавязкамі тэрмінам на два гады.

**УШ**

## Настаўніцу пачатковых класаў у Расіі звольнілі за інтымную сувязь з 8-класнікам

У горадзе Волжскі (Валгаградская вобласць, Расія) 28-гадовая настаўніца падазраецца ў інтымнай сувязі са школьнікам. Аб гэтым паведамляецца на сайце рэгіянальнага ўпраўлення Следчага камітэта.

Супраць педагога заведзена крымінальная справа аб палавых зносінах і распусных дзеяннях, учыненых у дачыненні да асобы, што не дасягнула шаснаццацігадовага ўзросту.

Паводле версіі следства, сустрэчы жанчыны са школьнікам былі рэгулярнымі і працягваліся з сярэдзіны лютага да пачатку сакавіка гэтага года.

Пра стасункі даведаліся бацькі вучня, убачыўшы іх перапіску ў адной з сацыяльных сетак. Высветліўшы, што каханая сына працуе ў той жа школе, дзе вучыцца іх дзіця, яны паведамілі аб здарэнні ў адукацыйную ўстанову і ў праваахоўныя органы.

Сваю віну жанчына цалкам прызнала. Школьнік таксама не стаў адмаўляць інтымную сувязь.

Педагог-выхавальнік пачатковых класаў, якую завуць Ангеліна, звольнілася. «Мама Аляксея прыйшла ў школу да дырэктара і распавяла, што ёй сталі вядомыя падрабязнасці рамана яе сына з настаўнікам. Жанчына паказала дырэктару фатаграфіі, якія яна знайшла ў падлетка ў тэлефоне. На іх Аляксей цалуецца з 28-гадовай настаўніцай», — паведамляе крыніца. Пасля гэтага Ангеліну выклікалі ў школу і папрасілі напісаць заяву аб звальненні.

Жанчына заявіла, што першапачаткова не ведала пра тое, што вучню восьмага класа, з якім у яе быў раман, няма 16 гадоў, але, калі даведалася, не стала перарываць сувязь.

### Сціісла

**Танцы на даху**

У Брэсце затрымалі кампанію, якая танцавала на даху «БМВ» падчас руху.

24-гадовы кіроўца быў цвярозы, а ягоныя пасажыры, што рызыкавалі сваім жыццём, — п'яныя. Два хлопцы, 25-ці і 22-х гадоў, і 21-гадовая дзяўчына раздзеліся і танцавалі, раз'язджаючы па вуліцах.

Аматары павесяліцца заплацяць штрафы.

**Бацька зарэзаў сына**

У Брэсце 69-гадовы бацька выпіваў са сваім 43-гадовым сынам. Яны пасварыліся — і стары ўдарыў сына нажом. Той памёр. Бацька затрыманы.

**Памёр у «Экамедсэрвісе»**

У мінскім прыватным медцэнтры памёр мужчына. Ён не быў пацыентам установы, а суправаджаў сваю сужыцельку. Раптам яму стала блага, і ён сканаў. Па папярэдняй версіі, прычынай смерці мог быць сардэчны прыступ.

**Выкапаў парэшткі**

Жыхар Лунінца капаў яму ў сваім гаражы і знайшоў чалавечыя парэшткі. Устаноўлена, што астанкі знаходзіліся на глыбіні каля 0,6 м і праляжалі ў зямлі больш за 50 гадоў. Эксперты мяркуюць, што гэты чалавек загінуў ад выбуху ў гады адной з войнаў у ХХ ст.

**Два трупы ў царкве**

У светлагорскім храме знойдзены трупы двух мужчын, якія праводзілі ў храме рамонтныя працы і там жа начавалі. Прычынай смерці стала атручванне прадуктамі гарэння газу. Пасля здарэння святара гэтага храма адхілілі ад пасады.

**УШ**

# Абрабаванне па-беларуску (і па-руску)

Адразу дзве спробы абрабаваць банк адбыліся ў Беларусі — адна скончылася паспяхова.

19 красавіка мужчына з медыцынскай маскай на твары зайшоў у аддзяленне «Беларускага народнага банка» ў Мінску. Мужчына паказаў супрацоўніку банка ліст паперы з надпісам пра пагрозу выбуху і патрабаваннем перадаць наяўныя ў касе грошы. Супрацоўнік банка выклікаў міліцыю, але мужчына паспеў збегчы.

На працягу наступных некалькіх дзён няўдалы рабаўнік знаходзіўся ў вышуку. Праваахоўнікам удалося высветліць асобу нападніка. Ім аказаўся 26-гадовы расіянін, які афіцыйна працаўладкаваны не быў. У Мінску мужчына пражываў разам з дзяўчынай, у чэрвені пара планавала згуляць вяселле. Праўда, свята прыйдзецца адкласці ці ўвогуле адмяніць — супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку Партызанскага РУУС Мінска пры сілавой падтрымцы супрацоўнікаў спецпадраздзялення ЗАХР затрымалі 26-гадовага мужчыну. У дачыненні да яго распачалі крымінальную справу — мужчына можа сесці на 15 гадоў.

Другая спроба абрабаваць банк адбылася ў Маладзечанскім раёне 21 красавіка. Следствам устаноўлена, што ўвечары невядомы зайшоў у аддзяленне «Беларусбанка», скарыстаўшыся адсутнасцю наведвальнікаў і пагражаючы супрацоўніку падобным да пісталета прадметам, забраў 60 мільёнаў рублёў. Пасля чаго мужчына хуценька пакінуў месца здарэння.

Рабаўніка пакуль не знайшлі. Яго асоба высвятляецца.

**УШ**

# Навошта Марцінкевічу

Пачынальнік беларускай літаратуры містыфікаваў свой радавод, лічыць гісторык-архівіст **Зміцер Дрозд**.

Наўрад ці ёсць у Беларусі чалавек, які не чуў прозвішча Дунін-Марцінкевіч. Вельмі ж яно яркае, запамінальнае. Вее ад яго глыбінёй стагоддзяў і высакародствам. Вымавіш — і нібы пераносішся ў слаўныя часы Вялікага Княства Літоўскага...

Тым часам гаворка ў гэтым артыкуле пойдзе пра, магчыма, самую галоўную містыфікацыю вялікага беларускага творцы — пра яго прозвішча. Падобна, што прыдомак «Дунін» у ім з'явіўся з уласнай волі Вінцэнта Марцінкевіча. «Глупства нейкае», — падумае патрабавальны і недаверлівы чытач: а як жа сотні дакументаў, кніг, лістоў, дзе стаіць подпіс менавіта «Дунін-Марцінкевіч»? Акрамя таго, гэтае прозвішча мелі яго нашчадкі і сваякі. Але паспрабуем разабрацца па парадку.



Радаводнае дрэва аднаго з родаў Марцінкевічаў герба «Лебедзь».

### Ці быў датчанін?

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — адзін з самых вывучаных класікаў. І ў яго біяграфіі, здавалася б, не магчымыя адкрыцці. Але, аказалася, для ўзнікнення новых гіпотэз (усё-ткі назавём наш матэрыял гіпотэзай) дастаткова новага погляду на звесткі, якія дзесяцігоддзямі друкуюцца ў навуковых і навукова-папулярных выданнях. Здзіўляе, што даследчыкі, якія выдатна ведалі, што Вінцэнт быў замяшаны ў крымінальных гісторыях з падробкай шляхецкіх дакументаў, практычна не ставілі пытанне: а наколькі можна давяраць складзенаму ім уласнаму радаводу? Паводле апошняга, яго род ішоў ад нейкага Пятра Дуніна, які прыехаў у Польшчу з Даніі яшчэ ў 1124 годзе. І нікога не хваляваў часавы разрыў паміж гэтым паўлегендарным Пятром і Вінцэнтам Марцінкевічам, які складаў радавод праз 700 гадоў!

Першы і самы важны дакумент у жыцці чалавека — метрыка аб нараджэнні і хрышчэнні. І ў нашым выпадку запіс аб хрышчэнні ў Бабруйскім касцёле не пакідае ніякіх сумневаў: ні ў бацькоў Яна і Марцыяны з Нядзвецкіх Марцінкевічаў, ні ў нованароджанага, нарачонага імем Вінцэнт-Якуб, ні ў хрышчонай (сястры Вінцэнта) Юллятны Марцінкевічаўны няма ніякіх прыдомкаў.

Можна было б гэта спісаць на недасведчанасць або нават лянoту ксяндза, які ашчадзіў на падвойных прозвішчах Дуніных-Марцінкевічаў атрамант. Але не ў гэты раз. Бо Ян Марцінкевіч быў не проста шляхціцам. Быў ён сваяком самога Арцыбіскупа Магілёўскага, Мітрапаліта рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі, адміністратара Віленскай дыяцэзіі, старшыні рымска-каталіцкай духоўнай Калегіі, пажыццёвага ўладальніка Бабруйскай бенефіцыі (нерухомасці, прадстаўленай святару), да якой, уласна, і адносіўся духоўны маёнтак Панюшкевічы, дзе нарадзіўся Вінцэнт, — Станіслава Богуша-Сестранцэвіча. І мясцовыя святары, і іх непасрэдны начальнік — мітрапаліт, які, дарэчы, таксама меў падвойнае прозвішча, выдатна ведалі, як на самай справе клічуць яго сваяка Яна Марцінкевіча. Але ў ніводным дакуменце, у тым ліку асабістых лістах і афіцыйных даверанасцях, ён не выкарыстоўвае прыдомак Дунін.

Прозвішча Дунін-Марцінкевіч няма ні ў рэвізскіх сказках 1816 і 1821 гадоў, ні ў дакументах, што тычацца выкрадання Вінцэнтам Марцінкевічам будучай жонкі Юзэфы (сам Вінцэнт, адказваючы на пытанні следчага, называў сябе выключна Марцінкевічам). Кульмінацыяй тады стала вянчанне маладых 18 снежня 1831 года ў Мінскім касцёле бернардзінак. І гэты найважнейшы сакрамент праходзіў таксама без «Дуніна». Няма «Дуніна» ні ў асабістых подпісах пад дакументамі, пакінутымі яго родным дзядзькам Ігнатам, ні ў подпісе, пакінутым яго маці Марцыянай, ні ў дзясятках ранніх подпісаў самога Вінцэнта.

Я маю некалькі дзясяткаў ранніх дакументаў, пачынаючы ад 1750-х: дзясяткі згадак у метрычных кнігах сям'і Марцінкевіча, дзясяткі судовых позваў, рэзалюцый, пратаколаў, допытаў, дэкрэтаў, даверанасцяў, лістоў, гандлёвых здзелак, фармулярныя спісы, прашэнні, запаветы... — усюды толькі адзін варыянт, Марцінкевіч!

Вядома, прыдомак маглі і не пісаць, але каб не пісаць яго заўсёды і паўсюль? Ды яшчэ ў тых дакументах, дзе ў іншых тыя прыдомкі напісаныя. Богуш-Сестранцэвіч, Дахновіч-Гаціскі, Воўк-Левановіч і нават Дунін-Раецкі ёсць, а Марцінкевіч запісаны проста як Марцінкевіч. Магчыма, мая тэорыя ненадзейная і новыя знойдзеныя звесткі паставяць на ёй крыж. Але пакуль дакладныя дакументы, дзе продкі Вінцэнта былі б названыя Дунінымі-Марцінкевічамі, не выяўленыя.

### Што такое прыдомак

Гэта дадатак да прозвішча, які першапачаткова меў практычнае значэнне: дапамагаў адрозніваць носьбітаў аднолькавых прозвішчаў або прадстаўнікоў розных галін аднаго роду — каб не блытаць цёзак. Прыдомкі ўтвараліся ад герба, ад імя продка і ад населенага пункта. Таксама прыдомак мог выкарыстоўвацца для надання прозвішчу больш «высакароднага» гучання.

Ні ў адным з вывадаў Марцінкевіча ў Мінскім і іншых дваранскіх дэпутацкіх сходах да 1832 года — а былі іх дзясяткі — не згадвалі прыдомак Дунін. Праўда, само прозвішча Дунін называлі! Але толькі калі гаварылі пра герб роду Марцінкевіча — «Лебедзь». Яго, згодна з легендай, прывёз у Польшчу з Даніі нейкі Пётр Дунін. Таму гэты герб меў і другую назву — «Дунін». І некаторыя сем'і, якія яго выкарыстоўвалі, сталі называцца з прыдомкам «Дунін»: Дунін-Баркоўскія, Дунін-Карвіцкія, Дунін-Ліпскія, Дунін-Раецкія, Дунін-Вансовічы, Дунін-Вольскія. Гэты герб выкарыстоўвалі і 220 іншых шляхецкіх родаў — усіх іх зводзіць да агульнага продка не мае сэнсу, гаворка можа ісці толькі пра нейкае гербавае братэрства або сваяцтва.

Былі і шляхецкія сем'і Марцінкевічаў іншых гербаў, напрыклад, «Даліва», «Ляліва», «Наленч»... але паколькі само прозвішча ўтворана ад імя Марцінка, Марцін, не мае сэнсу спрабаваць звесці ўсіх яго носьбітаў да агульнага продка. Гэтых продкаў магло быць колькі заўгодна ва ўсіх частках Рэчы Паспалітай.

З большасцю ж Марцінкевічаў ВКЛ часоў расейскай акупацыі злы жарт сыграла ўжо гатовае, надрукаванае ў папулярным гербоўніку Нясецкага радаводнае дрэва, да якога розныя Марцінкевічы і «далучыліся», часта з дапамогай фальшывых дакументаў.

Значыць, прозвішча Дунін-Марцінкевіч — варыянт прозвішча Марцінкевіч пэўнага герба «Дунін», дзе «Дунін» — прыдомак. Аднак не ўсё так проста, бо Вінцэнт выводзіў паходжанне не толькі свайго герба, але і свайго роду ад Пятра Дуніна. Гэта дазволіла і нашым даследчыкам пісаць, што яго продкі паходзяць з Даніі. Але тады яго прозвішча было б Дунін, а Марцінкевіч — прыдомак... Аднак ніякіх родных сувязяў Пятра Дуніна (некаторыя сучасныя польскія даследчыкі адмаўляюць яму ў дацкім паходжанні), які жыў у XII стагоддзі, і роду Марцінкевіча не знойдзена.

### Цар Пётр і 1201 год

Калі ж і як з'явіўся ў Вінцэнта Марцінкевіча «прыдомак» Дунін? У 1832 малады Вінцэнт Марцінкевіч, які ўжо жыў і працаваў у Мінску, стаў перад сур'ёзнай праблемай — давесці сваё шляхецкае паходжанне. Гучыць дзіўна, асабліва для прадстаўніка нябеднага і паважанага роду, прадстаўнікі якога займалі ганаровыя пасады і ў дакументах інакш як «вяльможны пан» не называліся, але такія ў Расійскай Імперыі былі законы. Сітуацыя абвастрылася пасля паўстання 1830—1831 гадоў, калі было вырашана канчаткова разабрацца са шляхтай і выйшаў закон «Аб разборы шляхты ў Заходніх губернях і аб упарадкаванні такога роду людзей». Вінцэнту Марцінкевічу, які і да гэтага называў сябе шляхціцам, давялося шукаць дакументы аб высокім паходжанні, пра што ён сам падрабязна напісаў у заяве ў Мінскі шляхецкі дэпутацкі сход:

«З дзяцінства асірацелы і маючы нядбайную радню, я зусім не меў нікога, хто б заняўся вывадовымі інтарэсамі нашага роду. Цяпер жа, дажыўшы да сталых гадоў, я ледзьве змог здабыць ад сваякоў нашы паперы, якія маю гонар падаць у тутэйшую дэпутацыю ў наступным парадку.

Што род Марцінкевічаў герба «Лебедзь» прыдомка Дунін з найдаўнейшых часоў карыстаўся шляхецкімі прэрагатывамі і ад вялікіх князёў Іаана Аляксеевіча, Пятра Аляксеевіча, якія былі ў саюзе з польскімі каралямі, меў наданні ў Смаленскім ваяводстве, у Малахоўскім стане — маёнтак Марцінкевічы...».

Пры гэтым Вінцэнт Марцінкевіч спасылаўся на дакумент, выдадзены са Смаленскага губернскага праўлення 24 кастрычніка 1802 жыхару Мінскай губерні Ігнату Мікалаевічу Марцінкевічу (роднаму дзядзьку Вінцэнта). Гэта выпіска ў даследчыкаў біяграфіі Марцінкевіча выклікала змяшаныя пачуцці, бо гаворка ў ёй ішла пра падзеі 1201 года! Публікуючы яе ў кнізе «Пачынальнікі», Генадзь Кісялёў нават замяніў дату на 1701 год, але ўсё роўна быў вымушаны пракаментаваць: «У дакуменце недакладнасць. У сапраўднасці Іван і Пётр Аляксеевічы з 1682 г. былі царамі, Іван Аляксеевіч памёр у 1696 г.». Язэп Янушкевіч так ацаніў дакладнасць гэтага



**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

# спатрэбіўся Дунін

дакумента: «Ці не з перыпетый уласнага жыцця браў драматург знакамітыя «указы всемилостивейшей государыни Елисаветы Петровны 49-го апреля 1895 года» ды «всемилостивейшего государя Петра Великого, в 1988 году марта 69 дня последовавшего...», адмыслова абыграныя аўтарам у несмяротнай «Пінскай шляхце»?

Самога дакумента не было ў вывадовай справе — ён знойдзены мной пазней, і ў ім сапраўды гаворка пра падзеі часоў Пятра I, перанесеныя ў 1201 год. Скажам мякка: дакумент сумнеўны. Але і ў ім няма прозвішча Дунін-Марцінкевіч!

**Спісаў**

Даследчыкі захапляліся тым, як добра малады Вінцэнт Марцінкевіч ведаў свой радавод. Але на самай справе першыя некалькі пакаленняў яго «продкаў» цалкам адпавядаюць пададзеным у гербоўніку Нясецкага, які ў сваю чаргу спасылаецца на звесткі Дунчэўскага, а гісторыя пра Пятра Дуніна ўзятая з «летапісцаў Пятра Наленча Малахоўскага». Бяда ў тым, што Дунчэўскі падае выпіску 1754 з Луцкага гродскага суда, а продкі Марцінкевіча, паводле яго ж словаў, у гэты час жылі ў Смаленскім ваяводстве, у маёнтку Марцінкевічы.

Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што большасць пададзеных у радаводзе Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча дакументаў — ці адкрытыя падробкі, ці сумнеўныя дакументы (правярыць іх сапраўднасць немагчыма), ці дакументы, якія не маюць дачынення да гэтай сям'і: ці мала дзе і калі маглі жыць нейкія Ян, Тамаш ці Ігнат Марцінкевічы? Галоўным пры складанні такіх радаводаў было даць звесткі пра некалькі пакаленняў і пацвердзіць выпіскамі з актавых кніг, рэвізскіх сказак, метрычных кніг.

Больш-менш дакладныя дакументы тычацца толькі пакалення самога Вінцэнта і яго бацькі. А вось на ўзроўні дзеда ўжо з'яўляюцца пытанні: па ўсіх радаводах дзед Вінцэнта — Мікалай, аднак у дзясятку дакументаў 1795 яго родны дзядзька мае імя па бацьку Міхайлавіч! А яшчэ раней сустракаюцца сумнеўныя факты. Напрыклад, на выпісках з метрычных кніг выходзіла, што Ян Фёдаравіч Марцінкевіч нарадзіўся ў 1710, а яго сын Якуб — у 1777 (бацьку — 67 гадоў), сын Ігнат — у 1786 (76 гадоў). Падобна, тут гаворка пра розных людзей і пакаленні, злучаныя ў адно радаводнае дрэва.

Больш чым сумнеўна выглядаюць і дакументы, якія чароўным чынам з'яўляюцца пасля адмоўнай рэзалюцыі Дэпартамента герольдыі, які разглядаў справы аб пацвярджэнні шляхецтва. У шляхецкія вывады імкнуліся ўкладаць усё, што мелі, да найдрабнейшай паперкі. Таму выклікае здзіўленне, калі праз дзясяткі гадоў знаходзіліся якраз патрэбныя арыгінальныя прывілеі каралёў Рэчы Паспалітай або метрычныя выпіскі са згарэлых кніг. Часта так і пісалі: «Пасля вызначэння Герольдыі я перагледзеў свае дакументы (або дакументы, якія дасталіся мне ад нядаўна памерлага сваяка) і знайшоў там ...». Чароўным чынам знаходзіліся менавіта патрэбныя для доказу шляхецтва паперы патрэбнага зместу! Цуд!

Усе вядомыя мне крыніцы, у якіх сустракаецца прозвішча Дунін-Марцінкевіч, — гэта дакументы, якія ўваходзяць у склад такіх шляхецкіх доказаў: «выпіскі» з актавых кніг, якіх ужо не існавала на той момант.

Асаблівай папулярнасцю ў фальсіфікатараў шляхецтва карысталіся кнігі Ашмянскага і Браслаўскага судоў, а таксама акты Галоўнага Трыбунала ВКЛ Мінскай кадэнцыі, якія дрэнна захаваліся. Спробы чыноўнікаў пераканацца, ці існавалі калісьці падобныя дакументы, сканчаліся аднолькава: «прыгонных кніг 1630 і 1639 гадоў не маецца», «акты скасаванага Браслаўскага суда ў 1812 годзе пры выгнанні непрыяцельскіх войскаў знішчаны агнём», «акты Трыбунала Мінскай кадэнцыі ад 1641 да 1759 год згарэлі ў горадзе Мінску ў 1762». Таму да «выпісак» трэба ставіцца з велізарным сумневам. І складанне сапраўднага радавода Вінцэнта Марцінкевіча яшчэ наперадзе.

**Пацвярджэнне шляхецтва як тагачасная «Карта паляка»**

Падводзячы вынік кароткага аналізу дакладнасці радаводу Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, рызыкну сцвярджаць, што ў многіх месцах гэта ўдалы мастацкі твор генеалагічнага жанру. У ім ствараецца сапраўдная альтэрнатыўная рэальнасць, як ва «Уладары пярсцёнкаў». Нам дакументальна (!) даказалі існаванне людзей і фактаў, якіх ніколі не было!

Паводле падобнага прынцыпу стваралася большасць радаводаў у тыя часы, і, магчыма, дзясяткі з іх належаць таленавітаму пяру Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Многія сяляне, дзякуючы падобным «доказам», змаглі не толькі вызваліцца з прыгоннай залежнасці, але нават даказаць сваё шляхецкае паходжанне. Марцін Чапкоўскі, саўдзельнік Марцінкевіча, дзякуючы пакаранням якога Вінцэнт у 1835 апынуўся ў Мінскім турэмным замку па падазрэнні ў падробцы каралеўскіх пячатак, пісаў: «Якія толькі справы паступілі праз рукі Марцінкевіча ў дваранскі збор, то ў кожнай ёсць падробленыя паперы». Але з'ява гэта была пашыраная. Мае продкі Ярашэвічы змаглі даказаць, што паходзяць з роду Бартноўскіх-Ярашэвічаў, і вывелі свой радавод аж у 1500-я. І большасць іх доказаў такія ж сумнеўныя, як у Вінцэнта Марцінкевіча.

Спрабуючы знайсці аналагі становішчу, у якім апынулася беларуская шляхта падчас расейскай акупацыі, вымушаная даказваць сваё паходжанне, мы можам прывесці сучасны прыклад. Сёння велізарная колькасць беларусаў у пагоні за нейкімі перавагамі кінулася даказваць сваё «польскае паходжанне» для Карты паляка. Такім самым чынам прыцягваюцца ўсе сямейныя легенды пра тое, што «дзед быў палякам», шукаюцца і знаходзяцца нейкія дакументы. Прычым сама сутнасць словаў «польскае паходжанне» ў часы Расійскай Імперыі значыла зусім не тое, што цяпер. «Паляк» часта азначала каталік, і не больш за тое. Зрэшты, як цяпер, так і ў часы Марцінкевіча многім удалося даказаць тое, чаго ніколі не было.

**Даказаў — і меў права**

У выніку шасцігадовай перапіскі шляхецтва роду Дуніна-Марцінкевіча было даказана 9 сакавіка 1838. Вінцэнт і яго сваякі атрымалі ўсе правы на выдатнае прозвішча, аўтарства якога або, па меншай меры, прывязка да сябе і сваіх продкаў належала яму.

Варыянт «Марцінкевіч» яшчэ неаднаразова сустракаўся і ў асабістых подпісах, і ў метрыках дзяцей Вінцэнта, і нават у пашпарце, выдадзеным яму ў 1851 для паездкі за мяжу. Падобна, што ўвасабленне ў жыццё новага прозвішча было даволі доўгім, але затое ў нашы часы варыянт Дунін-Марцінкевіч стаў адзіна магчымым.

Нават калі дапусціць, што недзе існаваў род Дуніна-Марцінкевіча, дык у ніводным з вядомых мне дакументаў гэтае прозвішча не згадваецца датычна продкаў ці самога Вінцэнта Марцінкевіча.

Для чаго ж Марцінкевічу спатрэбіўся «Дунін»? Магчыма, асноўнай прычынай стварэння падвойнага прозвішча было жаданне далучыцца да старажытнага роду. У тыя часы старажытнасць роду не была пустым гукам, што выдатна ілюструе, напрыклад, «Пінская шляхта». Была яна не толькі прадметам адмысловага гонару, але і перавагі, якую часам удавалася канвертаваць, напрыклад, у выгадную жаніцьбу або кар'еру. Гэта было асабліва важна для беднай шляхты, якая не мела іншых капіталаў. Але сапраўдныя прычыны, хутчэй за ўсё, назаўжды застануцца ў сферы здагадак і загадак.

Што мы можам сцвердзіць з вялікай ступенню пераканаўчасці:

1. Род Вінцэнта Марцінкевіча не ўзыходзіць да датчаніна Пятра Дуніна.

2. Ні ў адным з вядомых нам дакументаў да 1832 ніхто з продкаў або сваякоў Вінцэнта і ён сам ні разу не выкарыстоўваў прыдомак Дунін.

3. Радавод Дуніна-Марцінкевіча, пададзены ў Мінскі дваранскі сход, а адтуль у Дэпартамент герольдыі кіраўнічага сената, часткова перапісаны з гербоўніка Нясецкага, часткова выдуманы пацверджаны падробнымі дакументамі.

4. Вінцэнту ўдалося дакументальна давесці, што ён менавіта Дунін-Марцінкевіч, атрымаць пастанову Герольдыі менавіта на гэтае прозвішча, і, значыць, ён меў усе правы называцца менавіта так.

І, як паказаў час, магчыма, гэта было адно з яго найбольш удалых сачыненняў.

# Дзейсны імперыяліст: выйшлі з друку мемуары Мураўёва-вешальніка пра паўстанне Каліноўскага

«Нататкі пра кіраванне Паўночна-Заходнім краем і падаўленне ў ім бунту» — так называецца кніга, якая выйшла ў серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» выдавецтва «Лімарыус».

Самі ўспаміны віленскага генерал-губернатара друкуюцца на мове арыгінала, па-расейску, але каментары і навуковы апарат пададзеныя па-беларуску, кажа ўкладальнік і аўтар прадмовы да 200-старонкавага выдання Аляксандр Фядута.

Тыя мемуары Мураўёў дыктаваў свайму чыноўніку па асаблівых даручэннях Масалову адразу пасля вяртання з Вільні ў Пецярбург, у 1865.

Гэта была вельмі важная для амаль 70-гадовага Мураўёва справа: у тэксце ён малюе сябе такім, якім хацеў застацца ў памяці нашчадкаў.

**Варагаваў з імператарскай сям'ёй**

Большая частка мемуараў прысвечаная інтрыгам. Мураўёў варагаваў з усімі, у тым ліку з імператарскай сям'ёй. Даходзіла да таго, што ён не з'яўляўся на віленскі вакзал сустракаць роднага брата імператара — другую асобу ў дзяржаве.

Мураўёў лічыў, што расійскія імператары занадта мяккія. Яму, прыхільніку «цвёрдай рукі», імпанаваў толькі Мікалай I. Пры ім Мураўёў, дарэчы, дасягнуў найбольшых кар'ерных вышынь — узначаліў Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў.

Падчас яго рэвізіі два чыноўнікі памерлі ад страху.

**Удзельнічаў у Барадзінскай бітве**

На батарэі Раеўскага 15-гадовы Міхаіл Мураўёў быў цяжка паранены ў нагу ядром і да канца жыцця хадзіў, абапіраючыся на кіёк.

**Падтрымліваў прыгон**

Мураўёў быў рэзкім прыцэўнікам адмены прыгоннага права. Але, разам з тым, у часы голаду 1821-га ён карміў 30 тысяч сялян у Смаленскай губерні (меў там маёнткі) за ахвяраванні, сабраныя ў Маскве.

**Ініцыяваў забарону Статута ВКЛ**

Прызначаны магілёўскім губернатарам у 1828 Мураўёў падаў Мікалаю I справаздачу з рэкамендацыяй забараніць выкарыстанне ў справаводстве Літоўскага Статута. І 1 студзеня 1831 цар выдаў адпаведны загад.

**Мянушку «вешальнік» атрымаў не за паўстанне Каліноўскага**

Яна на трыццаць гадоў старэйшая. Займаючы пасаду грамадзянскага губернатара ў Гродне, Мураўёў у 1833-м «памілаваў» паўстанца Міхаіла Валовіча, замяніўшы таму чвартаванне на «больш гуманную» шыбеніцу.

Паводле тагачаснага заканадаўства, чыноўнік яго рангу мог мілаваць асуджанага толькі на адну прыступку. Наступнае памілаванне падпісваў вышэйшы начальнік. Але генерал-губернатар Далгарукі не замяніў Валовічу павешанне на пажыццёву катаргу.

**Псіхалогія карніка**

Масавае паўстанне ў Вялікім Княстве выбухнула з прыездам Мураўёва, які адным з першых падпісаў загад аб расстрэле ксяндзоў. Асудзілі іх яшчэ пры папярэднім губернатары, Назімаву, але апошні пакінуў Мураўёву магчымасць пачаць кіраванне з памілавання. Той не скарыстаўся.

«Для Мураўёва, як для карніка, паўстанцы не існавалі як людзі. Гэта былі «мятежные банды», антыдзяржаўны, антыманархічны бунт, які трэба было душыць, — кажа Аляксандр Фядута. — Праілюстраваць яго стаўленне можна апавяданнем Анатоля Франса «Пракуратар Юдзеі». Састарэлы Понцій Пілат расказвае пра кіраванне правінцыяй, пра палітыку, пра Рым. пры канцы яму задаюць пытанне пра гісторыю з Ісусам Хрыстом. «Не памятаю», — адказаў Пілат».

**Служыў імперыі верна і ахвотна**

«Ні вялікім патрыётам, ні пачварай дэспатызму Міхаіл Мікалаевіч не быў, — піша Аляксандр Фядута ў прадмове да выдання. — Неардынарны чалавек, ён быў, як ні банальна гэта гучыць, сынам свайго часу.




Жорсткі і valявы кіраўнік у ім спалучаўся з карупцыянерам, а патрыёт — з сапраўдным кар'ерыстам.

Але, у адрозненне ад іншых сваіх сучаснікаў, Мураўёў змог найбольш яскрава ўвасобіць у сабе расійскі варыянт тыпу дзейснага імперыяліста. Ён служыў імперыі верна, ахвотна знаходзячы пры гэтым для сябе магчымыя асабістыя выгады.

...Усе магчымыя спалучэнні супрацьлегласцяў былі і для яго, і для часу, у якім ён жыў, зусім натуральныя».

Запісаў СМ

# «Усе сышлі, сышла эпоха. Няма Караткевіча, няма Брыля, няма Гілевіча»

Жменька **прыватных успамінаў** пра Ніла Гілевіча.





Жыхарка дома па вуліцы Карла Маркса, 36, дачка народнага пісьменніка Беларусі Валерыя Навуменка згадвае пра сваіх суседзяў і іх лёсы.

**«Наша Ніва»: Вы даўно ведалі Гілевіча?**

**Валерыя Навуменка:** Я засталася апошняй у нашым пад'ездзе, хто памятае, дзе чыя была кватэра, якія былі адносіны паміж пісьменнікамі, іх жонкамі. Хто за кім пасяліўся.

З сям'ёй Гілевіча мы былі суседзямі ад 1969 года. У той год мы перабраліся ў кватэру Івана Шамякіна, якая была на адзін пакой большай за тую, што мы займалі перад гэтым. І вось Ніл Сымонавіч з жонкай Нінай Іванаўнай і сынам Сяргеем пасяліліся якраз у кватэру, дзе раней жылі мы, а яшчэ раней — Мележ.

Яны рабілі рамонт, мы рабілі рамонт. У нейкі дзень прыйшла мая бабуля па маці, вельмі яркая асоба, зайшла да Ніны Іванаўны, агледзела, што было ўжо па-новаму ў гэтай 22-й кватэры і сказала: «Мадам Гілевіч, прайдзёмце ў ванную». Гэтая фраза потым стане крылатай на ўсё жыццё.

Ніна Іванаўна ж была чалавекам вельмі смяшлівым, яскравым, таму яна як разрагочацца! Прыйшла да маёй маці і расказвае, як Настасся Феліксаўна завітала, агледзела, паставіла адзнаку якасці, як у дзяржпрыёмцы, аж да ваннага пакоя дайшла.

Была вельмі вясёлая пара і паміж бацькамі, і паміж дзецьмі. Усе былі маладымі, прыгожымі. У 1969 годзе Ніла Сымонавічу было 38 гадоў. Божа-божа! Са сваёй жонкай Гілевіч былі аднакурснікамі. Мой бацька быў выкладчыкам у іх, вазіў на бульбу. Ён сам усяго на 7 гадоў старэйшы, але франтавік, таму пэўная дыстанцыя захоўвалася.

Мае бацькі былі на вяселлі ў Гілевічаў. Вяселле было ў Мінску, бо маці і айчым Ніны Іванаўны жылі ў Мінску. Бацька не прыйшоў з вайны. Айчым быў чыгуначнікам. Але яна па размеркаванні адпрацавала недзе ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. Калі вярнулася ў Мінск, то яны пабраліся шлюбам з Гілевічам, які тады быў у аспірантуры.

У Ніла Сымонавіча было васьмёра братоў і сясцёр, увесь час ён усім дапамагаў.

Памятаю, як памірала ягоная маці, хворая на інсульт. Жонка расказвала, як ён прыехаў у Слабаду, маці яго яшчэ пазнала.

Памятаю, як памёр яго старэйшы брат Леў. Тады памерла сястра Іда (Ідэя), з якой ён разам вучыўся ў тэхнікуме. Яна маладой памерла ад анкалогіі, засталося два хлопчыкі. Меншаму было ўсяго 6 гадоў. Такія трагедыі сямейныя былі, яны не маглі не пакінуць адбітку на творчасці.

**«НН»: Гілевіч быў суровым чалавекам?**

**ВН:** Не быў ён суровым. Нават калі ён ідзе і засяроджаны на сваіх думках, як і мой бацька, і Караткевіч, гэта не значыць, што ён такі суровы. Ён ідзе і нешта пра сваё думае. Гэта ж творчы чалавек!

Як я была студэнткай, мне было гады 22, запрасіла мяне Ніна Іванаўна на дзень нараджэння. Мусіць, 50-годдзе. Было такое вузкае сямейнае кола: Гілевічы, пляменнікі, сястра. І тады ўжо грымела «А я лягу-прылягу». Весела было, усе маладыя, бацькі жывыя. Павіншавалі Ніну Іванаўну. І Ніл Сымонавіч мне сказаў (я не выканала гэту просьбу, палічыла не вартым умешвацца): «Валя (мяне так дома называлі), калі мяне панясуць, то хай грае «Вы шуміце, шуміце над мною, бярозы». Ён любіў гэтую песню. Яе многія любілі, яна стала хітом. І музыка выдатная, і верш.

**«НН»: Якія адносіны ў іх былі з жонкай?**

**ВН:** З жонкай добрыя адносіны былі. Такіх жонак пашукаць яшчэ. Вясёлая. Калі жонка сумная, зацятая, не гаворыць па два тыдні, то навошта такая жонка?

Гэта было юнацкае каханне. Пажаніліся ў патрэбны час маладымі, сына выгадавалі... І яна ўвесь час працавала. Яна нават перад смерцю хацела, каб ёй паставілі нагрузку педагагічную. Яна памірала ў палацы ў майго мужа, ён ёй займаўся непасрэдна тры месяцы...

Усё ў жыцці бывае, у каго не бывае? Але такога ўжо экстрэмальнага не было ў іх, я не ведаю.

**«НН»: А гаварылі дома па-беларуску?**

**ВН:** Ведаеце, усе дзеці добра гаварылі па-беларуску, нават калі маці была аднекуль з Расіі. І жонкі гаварылі. Ніна Іванаўна Гілевіч — прафесійны філолаг, і мая маці размаўляла па-беларуску.

Я гавару па-беларуску, брат мой гаворыць, гавораць мая маскоўская сястра, гавораць усе дзеці Івана Антонавіча Брыля, гавораць Клімковічы — і дзеці, і ўнукі.

Дзеці ўсе цікавыя. Няма нікога такога кончанага, хто б пайшоў на дно. Былі такія, хто не надта добра вучыўся, шукаў сябе, можа, з асабістым жыццём былі праблемы, разводзіліся. Але не стаў ніхто алкаголікам, ніхто не зваляўся пад плотам, а пра наркотыкі мы ўвогуле не чулі.

Кватэры не замыкаліся. Да нас прыходзілі дзеці — маці ўсіх накорміць, да іншых — таксама накормяць.

Канечне, шкодзілі. Недзе мне было 9 гадоў, а сын Гілевіча — на год старэйшы. Ніна Іванаўна завяршыла сваю кандыдацкую дысертацыю. Аддрукаваны рэферат ляжаў на паліцы пры ўваходзе каля тэлефона. Мы абліваліся вадой, праз трубачку гарохам пляваліся. Адчынілі дзверы і на Сяргея лінулі міску вады. І залілі рэфераты. Як ён роў, што прыйдзе мама!

Праўда, гэта была чыстая вада. Прасохлі тыя аркушы — і нічога не здарылася.

**«НН»: У Гілевічаў Сяргей — гэта адзіны сын?**

**ВН:** Так. Хачу адзначыць, што ніхто ў нашым двары не вучыўся так, як ён. Калі не атрымлівалася задача, то трэба было ісці да Сяргея, ён дапамагаў сходу.

Залаты медаль быў у яго. І ён з адным экзаменам пайшоў на біялагічны факультэт на біяхімію. Выдатна вучыўся! З ім здарылася бяда на першым курсе, калі ён пашкодзіў меніск. Яго аперавалі, хлопцы насілі яму канспекты. І ён усё роўна ўсе экзамены здаваў на «пяцёркі» па тагачаснай сістэме, быў першым у навучы.

**«НН»: Цяпер ваш дом зусім апусцеў.**

**ВН:** Нядаўна глядзела грузінскі фільм адзін, са шчымлівым сэрцам. У канцы была фраза: «Усе сышлі». У нашым пад'ездзе таксама ўсе сышлі. Няма Караткевіча, няма Івана Антонавіча Брыля, няма Івана Пятровіча Шамякіна — быў зычлівы да людзей чалавек, няма Глебкі, няма Віткі, з ім па-суседску вельмі добра жылі. Вітка напрыканцы жыцця быў настолькі бездапаможны, што ўнучка Юля [Чарняўская] званіла маёй маці і прасіла: «Ядвіга Паўлаўна, спусціцеся да дзеда, занясіце запалкі. У мяне малая Жэня, а ён не ведае, дзе тыя запалкі»...

Лёсы... У Брыля першай памерла жонка, у майго бацькі — жонка, у Шамякіна — жонка, у Караткевіча — зноўку ж жонка, у Віткі — жонка. І ім, уражлівым людзям, трэба было ўсё перажыць. Мой бацька адзін жыў сем гадоў, Шамякін таксама прыкладна столькі ж. У Брыля і майго бацькі ў адзін год памерлі жонкі, і яны самі адышлі ў адзін год. І ўсё гэта цяжка, калі ты стары і цябе гойдае па хвалях адзінота, няма тваёй жанчыны. Дзеці і ўнукі вас любяць, але ў кожнага сваё жыццё. У майго бацькі апошнія апавяданні — гэта суцэльны сум па маці. Як ён захварэў, я забрала яго на Лысую Гару. Я сплю на верандзе, а ён у сваім пакоі. Потым пачынае Ядзю клікаць. Дзе тая Ядзя, яе ўжо чатыры гады няма. А ў яго ў галаве Ядзя...

Ніл Сымонавіч, здаецца, ведаў свой дыягназ. Я яго чула ў апошні дзень яго жыцця, яму было кепска. Чула, як ён стагнаў, я жыву над імі. У той дзень яго забралі ў рэанімацыю ў 10:15. Нібыта ў панядзелак, напярэдадні, не было месцаў. Хто там цяпер пра каго думае, якія аўтарытэты... Усё змянілася і ў так званай прэзідэнцкай бальніцы. Калі раней у люкс клалі толькі на ўзроўні намесніка міністра, то цяпер можа ляжаць нейкая сімпатыя.

Гілевічу цяжка было перажыць смерць жонкі. Ён напісаў кніжку «І плямы на табе няма». Ён пахаваў Ніну Іванаўну на Кальварыі, таксама ляжаць мае бацькі. Аднойчы я прыйшла на могілкі: сядзіць Ніл Сымонавіч і сястра яго Святлана. Ён сядзіць і працірае партрэт Ніны Іванаўны. Я кажу: «Ніл Сымонавіч, нельга нічога несці з могілак дахаты». А ён адказвае: «Глядзі, які выдатны партрэт». Не ведаю, ці забраў.

Усе сышлі, сышла эпоха.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Як у верш Гілевіча дадалі слова «с..ка»**

Тады часцей хадзілі ў госці. І не толькі тыя, хто жыў у пісьменніцкіх пад'ездах. Прыходзіў у госці Кандрат Крапіва. Калі бацька тэлефанаваў і казаў, маўляў: Кандрат Кандратавіч, збіраемся ў нас на Карла Маркса ў 21-й кватэры, то Крапіва заўсёды пытаўся: «А хто ў вас будзе?» Бо, калі прыходзілі нейкія выпадковыя людзі, пачыналі казаць Кандрату Кандратавічу: «А вы все еще работаете? А вам денег мало?» Разумееце, казаць такое віцэ-прэзідэнту Акадэміі. На той час у Крапівы ўжо памерла жонка, і для яго аддушынай было прыйсці ў сваё асяроддзе, дзе былі пісьменнікі.

Да Васіля Віткі ў 20-ю кватэру заўсёды прыходзіў Сяргей Грахоўскі.

Было жалезнае правіла, што дзеці, калі дарослыя сядзяць за сталом, не павінны былі падыходзіць, нешта прасіць, клянчыць. Нашы бацькі адразу гэта спынялі. Калі дома былі госці і Гілевічы ў нас, то дзяцей адпраўлялі ў кватэру да Гілевічаў. У Гілевічаў катэгарычна забаранялася заходзіць у кабінет Ніла Сымонавіча, нешта кранаць, гартаць, браць. Але дзеці ёсць дзеці. Мая сястра, малая яшчэ, але таленавітая, яна на сёння прафесар у Маскве, падышла да машынкі і надрукавала ў рыфму непрыстойнае слова. Назаўтра прыйшла Ніна Іванаўна і пачала, як яна казала, допыт маладагвардзейцаў: «Хто заходзіў у кабінет да Ніла Сымонавіча?» Трэба сказаць, што сам Гілевіч рагатаў на ўсю сілу свайго голасу, бо нават у рыфму атрымалася. Словам тым было «с…ка», горшых мы не ведалі.

# Аматар роднай прыроды

**Таццяна Барысік.**
Апавяданне.

Студэнт-трэцякурснік факультэта дзіцячай педагогікі і псіхалогіі Юрась Гоман, па мянушцы Гык, вось ужо паўгадзіны як утаропіўся ў чысты аркуш паперы на кухонным стале і ніяк не мог даць яму рады. Адзінота і засяроджанасць не ратавалі. Гык пачынаў шкадаваць, што ўвязаўся ў гэтую авантуру: пагадзіўся напісаць нарыс для тэматычнай насценгазеты «Свет маіх захапленняў» у абмен на залік па беларускай мове.

А яшчэ ўранні, пачуўшы прапанову выкладчыцы, ён падумаў, што ўхапіў бога за бараду. Атрымаць той залік было няпроста, асабліва яму, Гыку, ураджэнцу аддаленага дробнага райцэнтра, выпускніку прафесійнага ліцэя, дзе тры гады вучылі адразу тром спецыяльнасцям, кожнай патроху. У атэстаце па мове Гык меў сем балаў, як і кожны, хто сядзеў на ўроку ціха і з класухаю не сварыўся, але ва ўніверсітэце чамусьці гэтага было недастаткова. Летась ён здаў кляты залік ажно з чацвёртай спробы. Таму ідэя з насценгазетай падалася прывабнай, нават не зважаючы на перасцярогу выкладчыцы: «Толькі не спрабуйце, Гоман, спісаць, я адразу пабачу, дзе вы, а дзе інтэрнэт!» « Ай, можа, выкручуся як-небудзь, дзеўкі памылкі праверадць...» — пазітыўна разважаў мававед-няўдаліца.

Але праблемы прыходзяць адтуль, адкуль не чакаеш. Памылкі — гэта паўбяды. Пры паглыбленні ў тэму высветлілася: ён не ведае, пра што пісаць. Бо ніякіх захапленняў, пра якія можна казаць услых прыстойнымі словамі, не мае. У дзяцінстве хадзіў у гурткі, у трэцім класе, як усе, займаўся музыкай: па бацькоўскім загадзе вучыўся граць на баяне. Нотнай граматы так і не адолеў. Паўгода бацькі назіралі за ягонымі пакутамі, разам з настаўніцай спрабавалі прыахвоціць хлапца да свету чароўных гукаў, але ўрэшце кінулі марную справу.

Можна было, канечне, у сачыненні пра музыку наплесці — але небяспечна: раптам пасля на вечарыне прымусяць на сцэне зайграць, а ён ужо забыўся, як той баян выглядае, з гармонікам і акардэонам вечна блытае — во смеху будзе!

Не абмінуў Юрка ў школьныя гады і спартыўных заняткаў. Увесь восьмы клас у лыжную секцыю прахадзіў, нават у раённай лыжні ўдзельнічаў. Далей справа не пасунулася. І галоўнай прычынаю сталіся не столькі прыродныя анамаліі, колькі Францавіч — Юрасёў трэнер. Ён, у адрозненне ад свайго выхаванца, меў багата захапленняў. Выраб і рамонт разнастайных сельгаспрыладаў, праца ў школьнай майстэрні, даўняе сяброўства са школьным заўгасам адымалі амаль увесь час трэніроўкі. У выніку юныя спартоўцы коўзаліся на казённых лыжах па школьным двары самастойна, хто як умее. Чым кіраваўся Францавіч, вылучыўшы менавіта васьмікласніка Гомана на спаборніцтвы, сказаць цяжка: можа, той часцей на вочы трапляўся ці спакайнейшы быў. Але Юрась дужа ўзрадаваўся і марознай раніцаю ў добрым настроі прыбыў на старт. Супернікамі аказаліся відавочна старэйшыя і лепш падрыхтаваныя хлопцы. Мусіць, Францавіч пераацаніў здольнасці свайго выхаванца ці нешта зблытаў і не на тую лыжню паслаў. Малы Юрка прыйшоў да фінішу ўвесь захаканы, зарумзаны, са зламанаю лыжынай. «Не журыся, унучак, цішай едзеш — больш камандзіровачных атрымаеш!» — суцяшала бабуля, шукаючы ў сумцы грошы на шакаладку. Тым годам у секцыю ён больш не пайшоў, наступнаю зімою захварэў, а пасля паступіў у мясцовы ліцэй, колішняе сельскае пэтэвэ, пачаліся іншыя захапленні.

— Слухай, Кабан, а можа, мне пра лыжы напісаць? — пацікавіўся на перапынку Юрка ў сябра, таксама будучага дзіцячага псіхолага. Той у адказ адразу зарагатаў:

— Ты, Гык, з дуба ўпаў? Снегу ж трэці год няма!

Што яму, Кабану! Кабан за факультэт у футбол гуляў і ў камп'ютарах шарыць — пра гэта ўся група ведае. А тут сядзі — ламай галаву! — крыўдаваў Гык сам-насам з нечапаным аркушам і, мусіць, зусім затужыў бы, калі б у пакой не ўваліўся, па даўняй інтэрнатаўскай звычцы не пагрукаўшы ў дзверы, сусед Віталя. Усюдыісны чалавек, якому ўсю дарогу было нешта трэба ад іншых: то цыгарэтаў, то хлеба, то солі, то запаліць, то патэлефанаваць. За сваё жыццё ён безліч разоў мяняў прапіску і працу і, па словах цешчы, быў надта адукаваным: «Мой зяць такі ўжо граматны, такі граматны, пэўна, іншага такога ва ўсім горадзе няма! Есць з кніжкаю, спіць з кніжкаю, у туалетце сядзіць і то з кніжкаю! Калі ён ужо гэтую навуку ў жызнь прымяняць будзе?» — жалілася старая.

— Чаго, герой, галаву павесіў? Усю радню ў адзін дзень пахаваў? — бліснуў залатым зубам Віталя.

— Ды вось, трэба сачыненне напісаць пра хобі, залік абяцалі, а я не ведаю як, — уздыхнуў Гык.

— Не заганяйся, зараз што-небудзь прыдумаем, — абнадзеіў Віталя і пачаў выпытваць.

— У футбол гуляеш?

— Не.

— А ў шашкі?

— Не.

— Да, сітуацыя... Можа, на падворку што рукамі рабіць умееш? Ну, мэблю там ці зламаны матацыкл паправіць?

— Ага, рубероід на даху прыбіваў на дзедавай істопцы, — з гонарам узгадаў Гык.

— Рукасты! — рагатнуў Віталя. — Давядзецца пісаць, як у тым анекдоце пра Пецьку і Чапаева! Ведаеш? Загадалі Пецьку ў вячэрняй школе пісаць сачыненне «Як я правёў лета...» А ён усё лета піў ды па бабах цягаўся. Ну і параілі: маўляў, як пілі — пішы, кніжкі чыталі, як па бабах — на рыбу хадзілі...

— Не складаецца ў мяне з рыбаю, — буркнуў Гык.

— Ну, баб жа любіш? — не сунімаўся дасціпны сусед.

— Слухай, у мяне хутка галава зломіцца, а ты смяешся, нібы жалезку знайшоўшы!

Аднак, нягледзячы на роблены папрок у голасе, пасля слова «бабы» тужлівая задуменнасць студэнта змянілася на бляск у вачах. Бо дзеўкі яшчэ з бесклапотных пэтэвэшных часоў былі для Гыка галоўным хобі. Ён любіў іх амаль як самога сябе, а не так даўно навучыўся з гэтага шчэ й выгаду мець. Што зробіш! Не мы такія — жызь такая. Падчас вучобы ў ліцэі на трактарыста і лесніка аддаваў перавагу першакурсніцам з інтэрната. З імі прасцей, бо дурнейшыя. Галаву затлуміць — раз плюнуць, у падарунак — і шакаладкі дастаткова! А калі Даша з Надзяю з-за яго на агульнай кухні пабіліся, Юрка Гоман мясцоваю знакамітасцю зрабіўся. Тады якраз ягонага дзядзьку Івана прызначылі начальнікам мясцовага РАУС. Дык ён наогул зоркаю сябе адчуў! Залатыя часы...

Як жа было такому хвацкаму кавалеру, славутага дзядзькі пляменніку за трактар садзіцца ці на пілараму ісці? Вось дзядзька і прапанаваў: «Паступай на вышэйшую. Адукацыя будзе — я цябе куды-небудзь уткну: хоць сабе ў пашпартны стол ці на месца Мікалаеўны — яна псіхолагам лічыцца, пакуль адвучышся, якраз на пенсію пойдзе». Гык падумаў: дзядзька дзела гаворыць. Сястра параіла ў педагагічны. Бал прахадны невялікі, вучыцца няцяжка, хлопцаў мала, ставяцца да іх паблажліва. А дзевак колькі! І не абы-якія. Пашчасціла.

Паступіў. Агледзецца не паспеў — упадабаў першую дзеўку ў групе і пачаў заляцацца. Жывучы ў інтэрнаце з прусакамі і дзіраваю падлогаю, ён па першым часе яшчэ і тут адчуваў сябе местачковым плэйбоем, не абы-якога дзядзькі пляменнікам. Але Марына была дачкою дырэктара завода і выканкамаўскай дамы, заўжды багата ўбраная, тэлефоны і планшэты ледзь не штомесяц мяняла, таму лічылася найпершаю красуняй. Двойчы на год адпачывала за мяжой, на дзень народзінаў атрымала машыну ў падарунак, на якой пасля лекцый ніколі ў бок роднага дому не зварочвала. Пачала перад іншымі дзеўкамі перспектыўным жаніхом хваліцца, планаваць улетку вяселле на сто чалавек. Гэта не Дашка з Надзькаю, малалеткі вясковыя! Шакаладкаю не спакусіцца, па прырэчных лаўжах гуляць не пойдзе.

Грошай на начныя дыскатэкі і рэстараны Гык не меў. Даволі хутка зразумеў, што ён тутака ніхто і зваць яго ніяк. Праўда, тужыў нядоўга. Неяк прыехаў дадому, схадзіў на танцы ў ДК і дзіву даўся — за паўгода столькі новых дзевак падрасло! Нічым за гэтую Марынку не горшых! А пантоў значна меней! Выкінуў з галавы Марынку і пачаў прыглядацца да маладзенькіх зямлячак. То адну правядзе, то другую. Лета прайшло, восень з зімою мінуліся. А Марынка нешта вясельных здымкаў у інстытут так і не прынесла.

Апошнія два месяцы, наязджаючы да бацькоў, Гык гуляў з Лізаю з суседняй вуліцы. Тая заканчвала адзінаццаты клас, збіралася на прадаўца вучыцца і паглядала на ўхажора бы на Бога знізу ўверх, ловячы кожнае ягонае слова. Як жа: прыгажун, студэнт, адвучыцца — начальнікам будзе, у вялікім горадзе жыве! Праўда, дзе канкрэтна жыве і з кім, не ведала, бо яе Юрачка не расказваў.

А жыў ён ужо другі год не ў інтэрнаце, а ў маласямейцы з усімі выгодамі, у аднапакаёўцы, лічы, разам з Галяю, гаспадыняю ўласнай жылплошчы, старэйшай за яго гадоў на пяць дзеўкаю. Тая па кавярнях-дыскатэках не цягаецца, пасля працы на швейнай фабрыцы ўсё болей дома сядзіць. І памые, і наварыць, і сама заўжды пад бокам. За жытло плаціць не трэба, грошай не патрабуе! Хіба што ежы з дому прывязеш, раз у бацькоў гаспадарка. Ціхая, непрыкметная, любіць, каб усё чысценька, збірае грошы на сценку, бо калі Хамутовы з дзясятай купілі — дык і нам трэба. Хітранькая. Пра ЗАГС пакуль маўчыць — спадзяецца доўгачасовай аблогай узяць. Толькі хітрасць тая навідавоку...

— Ну дык калі з маёй суседкай вяселле? — зноўку азваўся балбатлівы Віталя.

— Давучуся спярша, а там паглядзім, — прамармытаў Юра, пра сябе адзначыўшы: «На святыя ніколі, толькі хрэн я табе пра гэта скажу, ты на першай жа п'янцы маёй Галі прагаворышся. Яна адразу мяне выпрэ. А мне яно трэба? Тутака ўежна і ўлежна. Перабуду, пакуль не пераддыпломная практыка ці хаця новы інтэрнат не адрамантуюць — і тады ўжо рукі ў ногі! Вось і маці гаворыць: ты, сынку, з ёй пажыві пакуль, цяпер усе так робяць. Але дужа да галавы не бяры і жаніцца з ёй нават не думай. Нібыта ён сам не разумее. Ага, ажэнімся, сценку купім, такую, каб усёй маласямейцы спадабалася: і Віталю, і жонцы ягонай, і Хамутовым з дзясятай, і сяброўцы Наташы, іхнім гасцям , родзічам. Галя, канечне, адразу ў дэкрэт пойдзе, пасля ў другі, каб мужык нікуды не падзеўся. Я выхавацелем у дэфектыўны інтэрнат уладкуюся і застануся ў гэтай маласямейцы, пакуль нагамі ўперад не вынесуць. Будзем жыць — капейкі лічыць. Ніхто і зваць ніяк. Дома хоць дзядзька і гаспадарка, а тут што? Галя, Галя... Знойдзе сабе іншага беспрытульніка. «Баб усюды хватае. Нашто табе, сынок, старыя косткі! Хамут на шыю! Паспееш. Бацьку слухай. Бацька жыццё пражыў. Вывучышся, нагуляешся, пры пасадзе будзеш, дык усватаеш сабе маладую, прыгожую ды хадзяйлівую», — прыгадалася шматкроць чутае.

— Ай, гуляй, Гык, пакуль гуляецца! Як дахаты прыязджаеш, трохі збіраецеся? Кніжкі чытаеце? Ну, у сэнсе, п'яце гарэлачку? — працягваў пацвельвацца Віталя.

Юрка такім паваротам размовы ўсцешыўся. Выпіўка з сябрамі заўжды была для яго найлепшым адпачынкам і цікаваю тэмай для гутаркі. А пахваліцца ён меў чым:

— А то! Хлопцы ў нас чоткія, вучыліся разам. Мясціны прыгожыя! Дняпро за дзесяць хвілін ходу. У выхадны набяром бухла — і на пікнік. Сто грамаў накаціш, гурком з гарода прыкусіш, вакол птушкі ціўкаюць, рыбка выскачыць — лускої блісне! Прырода!

— У вас жа там радыяцыя, — скептычна прабубнеў Віталя, яўна зайздросцячы маладому суседу.

— Ай, дзядзька казаў, яна ўся раствtotрылася, — запэўніў Гык. — А калі дзень нараджэння ў каго, дык мы агонь распалім, шашлыкі смажым, музыку з сабою бяром! Вось тым годам я нагу зламаў, а ў Лысага провады былі — прастаўляўся, дык Нікацін, Карэлы і Лемяшонакменшы мяне на руках гарэлку піць неслі! Напрасткі праз луг перлі, як ласі па кукурузе! Я ж кажу — чоткія хлопцы!

— Дык ты ж, браце, аказваецца, турыст! Вось так і напішы ў сваім сачыненні — чаго мучыцца, выдумляць нешта?

— Які турыст? Я ж не па гэтых справах!

— П'янка на прыродзе — пакультурнаму аднадзённы паход. Калі я ў 90-я на турбазе працаваў — гэта так называлася. Толькі ты замест «бухаў» пішы — на матылькоў дзівіўся, — павучаў Віталя.

— Ага, і матылькоў у нас шмат, і розных казюрак. На траву зваліўся, а яны там траскочуць! Я нават бабра бачыў, — шчыра цешыўся хлапец, не разумеючы сарказму. — Вось на тыя выходныя прыеду. Карэлы якраз з Расіі вернецца. Збяромся, у старога Джын-Тоніка возьмем мангал. Пагуляем!

— Ты ж яшчэ напісаць не забудзься, што прыроду родную любіш. Дырэктар рыбнай базы, каторага я вазіў, заўжды так карэспандэнтам казаў, калі яны пра ягонае хобі пыталіся. У выніку — паўзавода на свежым паветры прапіў! За гэта яго й выперлі, і мяне ўслед...

— Ну, Віталя, ну, галава — два вухі! Ды табе трэба міністрам быць, а не склад ахоўваць! — узрадаваўся Гык, працягнуўшы суседу цыгарэты і запальнічку. Праблема вырашылася. Па нечапаным аркушы самацёкам пабеглі каравыя, але шчырыя радкі.

«...Беларуская прырода — самая прыгожая ў свеце. У нас шмат лясоў, палёў і азёраў. У маім родным горадзе ёсць рака Дняпро. Па берагах ракі расце трава, чарот, вярба, але бываюць і пясчаныя пляжы. У выходныя дні мы з сябрамі любім хадзіць у краязнаўчыя паходы па родных мясцінах. Там мы палім вогнішча, ставім палатку, слухаем музыку і назіраем за прыродай. Я люблю глядзець, як заходзіць сонца і спяваюць птушкі. У нашых краях многа розных звяроў: бабры, ласі, ластаўкі і краснапёркі. Хаця раней у нас была радыяцыя, але ўсё жывое ўсё роўна жыло, жыве і будзе жыць!!!» — так, да Якуба Коласа Гоману далёка, пасміхнулася выкладчыца беларускай мовы Марыя Захараўна, прачытаўшы вытрымку з сачынення ўголас.

— Затое патрыятызм які! Ды і на лекцыях Гоман сядзіць як цвік, бывае і канспекты з сабою носіць. Не тое што Кабанюк і Уласенка, — падтрымала студэнта куратарка групы. — Што зробіш, Марыя Захараўна, і на раёнах кадры патрэбны. Можа, яшчэ лепш за каторага выдатніка ўладкуецца.

— Ды ўжо гэты без працы і пасады не застанецца, будзьце ўпэўнены. Усюды пішчом пралезе, — пагадзілася выкладчыца, распісаўшыся ў залікоўцы...

Ускраіну горада, а калі дакладней, пасёлка гарадскога тыпу, забудаваную прыватнымі дамкамі, апанавала вясновая квецень. Ля плота буяў бэз, пад плотам красавалі браткі.

Дзябёлая кабета ў блакітным халаце, аздобленым белымі лебедзямі і чырвонымі ружамі, падобная да персідскага шаха, перастрэўшы ля сваіх веснічак сяброўку з сынам — дробненькую жанчынку ў шэрым плашчыку і падобнага на яе хлапчука гадоў шаснаццаці — адразу пачала хваліцца:

— Мой жа сын такі разваротлівы! Калі яшчэ тая сесія, а яму ўжо сёння самы цяжкі залік аўтаматам паставілі. Казаў, самаму першаму з групы! Шанцуе майму Юрку і з вучобай, і з дзеўкамі!

— Во маладзец! — падтакнула сяброўка, адразу засакатала пра сваё. — Дасць бог, і мой Міша сёлета паступіць. На філфак ва ўніверсітэт збіраецца. Нікуды гуляць не ходзіць. Вечарамі дома сядзіць, усё чытае ды нешта піша! А вы з заўмагам Кашчучыхай мо хутка сватамі будзеце? — пасміхнулася жанчынка, не заўважыўшы, як сцяўся ўвесь, нібы дубцом па голай патыліцы сцебанулі, яе сын. — А то ўсё як ні іду ў суботу з другой змены, дык твой Юрка з меншаю Кашчучкай, Лізаю, Мішкавай аднакласніцаю, стаіць».

— Ды хто ж яго ведае, тутака не ўгадаеш! — аджартавалася шчаслівая матка паспяховага сына. Жанчыны працягвалі балбатаць. Міша стаяў побач, апусціўшы вочы долу, быццам яго з крадзеным парасём злавілі. Пасля цёплага дожджычка па вуліцы беглі вясёлыя раўчукі. У вечаровай бэзавай смузе заліваўся салоўка.

**Таццяна Барысік**

пісьменніца. Лаўрэат прэміі Гедройца (2015) за кнігу «Жанчына і леапард». Жыве ў Магілёве.




**Беларускія піянеры таксама ўзялі ўдзел у мерапрыемствах рэспубліканскага суботніка. Раённыя арганізацыі Мінска сабраліся на суботнік ля помніка Марату Казею. Напачатку адбыўся мітынг, а пасля піянеры і супрацоўнікі тэлеканала СТБ прыбіралі «піянерскі сквер» і прылеглы парк.**




**На Гродзеншчыне пасадзілі лес імя Васіля Быкава. Маленькія дрэўцы ў гонар народнага пісьменніка Беларусі высадзілі на плошчы аднаго гектара падчас тыдня лесу на адной з дзялянак Зарубіцкага лесу Індурскага лясніцтва. 23 красавіка супрацоўнікі лягсаса ўсталявалі каля лясной дарогі памятны знак у гонар Быкава.**



**Прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў разам з кіраўніцтвам урада ў ходзе рэспубліканскага суботніка саджалі дрэвы на тэрыторыі Козырскага лясніцтва Лагойскага раёна.**



**Упершыню ў гісторыі жанчына прывяла мужчынскі прафесійны футбольны клуб да чэмпіёнства. Гэта адбылося ў Ганконгу. 27-гадовая Чан Юн-Цін, якая прыняла каманду «Істэрн» у снежні 2015 года, у красавіку стала з камандай чэмпіёнам краіны.**



**14-гадовая берасцейка з'явілася на старонках часопіса Vogue у Тайвані. Дзевяцікласніца Кацярына Каштальян ніколі не думала стаць мадэллю, у яе жыцці былі іншыя захапленні: вучоба, спорт, танцы. Выпадкова Каця апынулася ў мадэльным агенцтве Сяргея Нагорнага, і гэта адкрыла перад дзяўчынкай зусім іншы свет.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Вы рыхтуецеся да размеркавання?

— Так, гляджу «Падарожжы дылетанта».

* * *

Сёння, разгадваючы крыжаванку, на пытанне «Элемент раслiннай клеткі» ўпэўнена вывеў «вакуоля». Аж заплакаў слязьмі: я трыццаць доўгіх гадоў чакаў моманту выкарыстаць гэтыя звесткі са школы...

* * *

Хачу завесці сабаку, мне кажуць: падумай, гэта ж такая адказнасць. Хачу татуіроўку, кажуць: не спяшайся, гэта ж на ўсё жыццё. Затое дзяцей давай-давай, нараджай хутчэй. А дзеці гэта не адказнасць і не на ўсё жыццё?

* * *

– Ты павінна зноў паказаць мне, як карыстацца пральнай машынай.

– Ставіш «сінтэтыку», 40 градусаў, засыпаеш парашок, уключаеш.

– А навошта астатнія рэжымы?

– Яны для жанчын.

* * *

У дзяцінстве я даведаўся, што рост майго дзядзькі роўна 2 метры. І з таго самага моманту за мной павялася дзіўная асаблівасць. Калі мне кажуць адлегласць у метрах, я заўсёды лічу, колькі гэта будзе ў дзядзьках.

* * *

Калі я лаюся са сваёй жонкай, то мы як група на канцэрце: пачынаем з новага матэрыялу, а заканчваем найлепшымі хітамі...

* * *

Боршч — ён як кунг-фу. Ты можаш гатаваць яго ўсё жыццё, але так і не дасягнеш узроўню бабулі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Лужкі. Дзвінскі павет.** Хоць кругом народ беларускі, але не шануюць ні сваёй песні, ні мовы, асабліва маладзёж наша, хоць трэба прызнаць, старыкі нашы не патураюць. Першы раз у гэтым гаду папаў сюды «Беларускі каляндар» і так усім спадабаўся, што на другі год будзе меці ў нас шмат пакупцоў.

**«НН». №16—17. 1911.**

**«Мы ўзялі адказнасць за Плошчу,** мы гатовыя ўзяць адказнасць за Краіну». «Цэлы месяц штабам Мілінкевіча страчаны. Удзельнікі Сакавіка-2006 прагнуць дзеяння, а штаб чакае сацыяльна-эканамічнага крызісу. Не бачым плану, не бачым ідэяў. Таму мы не можам болей маўчаць. Мы станем апорай Мілінкевіча. Мы даём сёняшнім лідарам год. І звяртаемся да моладзі: самаарганізоўвайцеся!» — кажа камендант намётавага мястэчка Алесь Мазур.

**«НН». №16. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 26.04.2016.
Замова №1299.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16016